


# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

13 сакавіка 2015 года №11 **(1037)**

**Падарунак на 8 Сакавіка – засунуць руку ў трусы стрыптызёру**
Чым жывуць начныя клубы Маладзечна
старонка 20

**Каму з навасельцаў дапаможа дзяржава**
Апублікаваны спіс жылых дамоў і аб'ектаў, будаваць якія сёлета дапаможа дзяржава
старонка 5

**Ля гімназіі №6 адбыліся дзве аварыі**
с. 4

**Бацькоў хвалюе стан садка ў Чысці, які плануюць рамантаваць**
с. 2

**Каб працаваць на поўную моц, падраміце паўгадзінкі днём**
с. 21

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Пройдзе фестываль батлеек

**СМАРГОНЬ.** Яго ладзяць у аграгарадку Залессе 21-22 сакавіка. Як распавяла адна з арганізатараў **Ала Шыцікава**, у ім возьмуць удзел як калектывы, якія маюць званне народных або узорных, так і самадзейныя. Яны прадставяць 30-хвілінныя пастаноўкі на сцэне музея-сядзібы Агінскага і ў Залескім сельскім Доме культуры.

### Сустрэліся з былымі вязнямі

**МЯДЗЕЛ.** У музеі народнай славы 5 сакавіка прайшоў тэматычны вечар з былымі малалетнімі вязнямі, якіх у вайну вывезлі ў Германію. Называўся ён "Мы прыйшлі з ўкрыжаванага дзяцінства...". Напярэдадні 8 сакавіка ва ўстанову запрасілі жанчынвязняў з Мядзела. Супрацоўніцы музея расказалі пра лёс кожнай, паказалі іх фотаздымкі. На памяць пра сустрэчу жанчыны атрымалі падарункі.

### Пакажуць "Фамільны альбом"

**ВІЛЕЙКА.** У зале выстаў краязнаўчага музея 20 сакавіка распачнецца выстава жывапісу "Фамільны альбом". Свае працы пакажа мастак **Аляксандр Сілівановіч**. Выкананыя яны ў такім накірунку сучаснага мастацтва, як "прадметны сімвалізм". Мастак жыве ў Гродне. Ён – удзельнік шматлікіх пленэраў, распавяла навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**. Пачатак выставы – а 17 гадзіне.

### Выцягнулі кашалёк

**МАЛАДЗЕЧНА.** 10 сакавіка невядомы скраў у 63-гадовай жанчыны 1 мільён 300 тысяч рублёў. Яна прыйшла на плошчу Старое Места за пакупкамі. Кашалёк быў у кішэні. Яго сцягнулі. За апошні тыдзень гэта другі выпадак, калі ў пажылых жанчын крадуць грошы.

Аддзел інфармацыі.



# Выпускнікам пакінуць толькі ўрачыстасці



Фота з архіва "РГ".

Абавязковыя атрыбуты свята — уручэнне атэстатаў, канцэрт зорак і салют застануцца нязменнымі.

**Ад выпускных урачыстасцяў сёлета застанецца толькі ўручэнне атэстатаў і канцэрт. Працягу вечара ў школе з тортамі і гарбатай не будзе.**

Каментуе першая намесніца начальніка ўпраўлення адукацыі Мінскага абласнога выканаўчага камітэта **Жанна Варабей**:

– Не трэба рабіць упор на нейкае святкаванне за сталом. Галоўнае ў выпускным балі – гэта ўрачыстасць. Атрымаць атэстат з рук дырэктара школы, паглядзець канцэртную праграму, патанцаваць у прыгожай сукенцы з аднакласнікам. А тое, што не будзе застолля ў школе, я лічу, што гэта правільна. Ніхто не забараняе пасля выпускнога бацькам і дзецям схадзіць у кавярню або адзначыць свята так, як захочацца ім.

У Вілейскім аддзеле адукацыі пракаментавалі гэта так:

– Урачыстую частку ў школе ніхто не адмяняў. Будзе ўсё: і ўручэнне атэстатаў, і песні, і танцы. Усё астатняе – як і па ўсёй вобласці.

Намесніца начальніка Смаргонскага аддзела адукацыі **Іна Савіцкая**:

– У нас ніякіх застолляў у школах не праводзіцца ўжо некалькіх гадоў. Гэты год таксама не выключэнне. А калі бацькі самі захочуць узяць на сябе адказнасць за працяг урачыстасцяў – гэта іх права. Школы да гэтага ніякага дачынення мець не будуць.

У сёлетніх выпускнікоў сваё меркаванне на гэты конт:

– Вядома ж, я зусім не рады, бо мы не адчуем той атмасферы, якой хацелася б. Я марыў, што, калі закончу школу, раніцай буду сустракаць світанак у двары школы, як мой старэйшы брат. Але, відаць, не лёс, – кажа выпускнік 12 школы Маладзечна **Віталь Кірзяёнак.**

– А я не моцна перажываю. Усё адно на школьны выпускны не заставалася б. І справа не ў грошах. Я толькі адзін год вучуся ў новай школе. Тут для мяне ўсе чужыя. Таму я ўжо змірылася з тым, што выпускнога ў мяне не будзе, – гаворыць **Караліна Падрэз** з 4-й школы Маладзечна.

**Лізавета Чуйкевіч**, выпускніца маладзечанскай СШ №4:

– Я вельмі незадаволеная тым, што ў гэтым годзе будзе толькі ўрачыстая частка. Школьны выпускны – гэта памятная падзея. Таму вельмі б хацелася, каб усё вярнулі на свае месцы і быў працяг пасля ўрачыстай часткі.

### Міліцыя будзе дзяжурыць у звычайным рэжыме

Начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Маладзечанскага РАУС **Аляксандр Кісель** кажа: "Ніякія застоллі ў школах афіцыйна не праводзяцца ўжо некалькі гадоў. Гэты год будзе такім жа, як мінулы. Міліцыя як дзяжурыла на урачыстасцях, прысвечаных выпускному вечару, так і будзе дзяжурыць у звычайным рэжыме.

Наталля ТУР.

● ПЫТАЙЦЕСЯ–АДКАЗВАЕМ

# Бацькоў хвалюе стан садка ў Чысці, які плануюць рамантаваць

**МАЛАДЗЕЧНА. Бацькі заклапочаныя дрэнным станам чысцінскага дзіцячага садка 2. Скардзяцца на шчыліны ў сценах і адсутнасць рамонту.**

– Маё дзіця пакуль ходзіць у яслі, – кажа **Таццяна**. – Гэта непадалёк. Мы глядзім на садок, бачым гэтыя шчыліны, якімі ён увесь пакрыты, дзіркі ў сценах і папросту баімся. Налета мы таксама туды мусім ісці, але калі яго не адрамантуюць, то я не ведаю, што буду рабіць. Страшна весці, давядзецца шукаць нейкія іншыя варыянты. У другім чысцінскім садку месцаў няма. А гэты... ну проста не шчыліны, а дзверы на вуліцу. Ды і скразняк. І ўвогуле, хто ведае, раптам блокі пасыплюцца?

Частку груп у садку расфарміравалі. З шасці зрабілі тры. З найбольш небяспечных перавялі ў лепшыя, распавядае маці аднаго з дзяцей, што ходзяць у садок №2, **Наталля**.

– Будынак фактычна сыплецца. Тры ўваходы ўжо закрылі, бо разбураюцца. Музычная зала, спартзала не працуюць. Нам казалі, што заняткі ўсё адно будуць ісці, але дзе і як? Групы сумясцілі, зрабілі вялікія, месца не хапае. Адна надзея, што зараз надвор'е палепшыцца і дзеці будуць гуляць на свежым паветры.



Фота з архіва "РГ"

Не ва ўсіх дзяцей ёсць магчымасць наведваць новыя і адрамантаваныя садкі.

### Адну групу перавялі ў іншы садок

Як распавяла загадчыца дзіцячага садка №2 **Наталля Дзергачова**, садок наведваюць 60 дзяцей. Адну групу перавялі ў дзіцячы садок №1.

Садок №2 атрымаў рэкамендацыі, у якіх памяшканнях заняткі лепш не праводзіць. Цяпер не працуюць дзве залы: музычная і спартыўная. Аднак заняткі па гэтых прадметах ідуць.

Фартэпіяна і іншыя неабходныя рэчы для заняткаў музыкай перанеслі ў іншае памяшканне.

Заняткі па фізкультуры ідуць у групах ці на свежым паветры.

### Рыхтуюць праект па рамонце

Як пракаментавала загадчыца аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Іна Драпеза**, цяпер рыхтуюць праект па рамонце садка. Праводзяць агляд памяшканняў і ўносяць заўвагі.

Рамонт плануюць весці паступова. Бягучы рамонт робяць ужо цяпер. Частка запланаваная на лета.

**Настасся РОЎДА.**



Фота з архіва Вольгі КОЛАСАВАЙ.

● ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Вольга Коласава пра "Рэгіянальную газету"

**Старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея Вольга Коласава патлумачыла, чаму амаль 20 год чытае "Рэгіянальную газету":**

– Чытаю яе з першага нумара. А ў нашым музеі ёсць падшыўка выдання за ўсе гады.

Скажу шчыра, што газета мне падабаецца. Яна вельмі інфарматыўная, ёсць навіны рэгіёна ва ўсіх напрамках: культурным, эканамічным, палітычным і іншых. Вельмі шмат гістарычных матэрыялаў, якія гляджу ў першую чаргу.

Газета цікавая. Таму чытаю ад першай і да апошняй старонкі – апроч тэлебачання і рэкламы. Не тое, што выбіраю толькі асобныя матэрыялы.

Ад сваіх знаёмых ведаю, што ім газета таксама падабаецца. Пабач ля музея ёсць кіёск "Белсаюздруку". Бачу, што гараджане газетай цікавяцца.

Выданне не толькі чытаю – з'яўляюся даўнім аўтарам публікацый у "Рэгіянальнай газеце". Вельмі прыемна, што па маёй ідэі стварылі рубрыку "Стары альбом". Чытачы актыўна перадавалі фотаздымкі, расказвалі пра сваіх продкаў, гісторыю будынкаў, вуліц, мястэчак.

Рубрыка перыядычна знікала, з'яўлялася зноў, а ў апошні час яе зусім не бачна. Лічу, што яе трэба адрадзіць, бо бачу вялікую цікавасць у людзей да сваіх каранёў, сямейных альбомаў.

Хачу павіншаваць калектыў газеты з юбілеем. Зычу даўгалецця, творчых поспехаў, добрых чытачоў і каб выданне захоўвала свой імідж і аўтарытэт.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● АФІЦЫЙНА

# Узнагародзілі лепшых работнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА. 6 сакавіка ў Палацы культуры адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне работнікаў сельскай гаспадаркі за 2014 год і святкаванне 75-годдзя Маладзечанскага раёна.**

Падчас мерапрыемства выступоўцы ўзгадалі, як развіваўся горад і раён, якія прадпрыемствы, навучальныя ўстановы з'яўляліся на іх тэрыторыі.

З 75-годдзем Маладзечанскага раёна павіншаваў гасцей мерапрыемства старшыня маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта **Аляксандр Яхнавец**.

### Узнагародзілі лепшых па прафесіі

Ганаровыя грамадзяне Маладзечна і Маладзечанскага раёна атрымалі кветкі, прайшла цырымонія ўзнагароджання лепшых па сваіх прафесіях.

Былі ўзнагароджаныя работнікі прадпрыемстваў, устаноў адукацыі, сельскай і жыллёва-камунальнай гаспадаркі, банкаў, энергетычнага комплексу, інжынеры па ахове працы. Таксама работнікі ў сферы гандлю, будаўніцтва, работнікі аўтамабільнага і чыгуначнага транспарту, арганізацый сувязі, бытавога абслугоўвання. Лепшыя работнікі ідэалагічнай і прафсаюзнай арганізацый, органаў дзяржаўнага кіравання, культуры, сацыяльныя работнікі.

### Вызначылі лепшых у намінацыі "Лепшы кіраўнік"

У ёй вызначыўся дырэктар "Электрамеханічнага завода" **Васіль Чаеўскі**, дырэктар гімназіі №7 Маладзечна **Вольга Малярэвіч**.

Лепшым кіраўніком сельскага Савета дэпутатаў стала кіраўнік Красненскага сельскага Савета **Валянціна Кісель**.

Лепшымі работнікамі ў сферы адукацыі сталі трэнер дзіцячай юнацкай спартыўнай школы №1 Маладзечанскага раённага выканаўчага камітэта **Сяргей Асанаў**, настаўнік сярэдняй школы №11 у Маладзечне **Віктар Жук**, кіраўнік фізічнага выхавання ясляў-сада №1 у Маладзечне **Наталля Сезіна**.

Гімназія №7, цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі і яслі-сад №6 сталі лепшымі ўстановамі адукацыі.

### Стаматалагічная паліклініка – лепшая ўстанова аховы здароўя

Красненскі сельскі Савет стаў лепшай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай.

Лепшая арганізацыя прамысловасці з колькасцю работнікаў больш за 300 чалавек – СП "Мінскі мэблевы цэнтр", з колькасцю работнікаў ад 100 да 300 чалавек – СЗАТ "Электрамеханічны завод", з колькасцю работнікаў менш за 100 чалавек – ПДКУП "Дорвектар-Маш".

Лепшая будаўнічая арганізацыя з колькасцю работнікаў больш за 100 чалавек – ААТ "Спецбудмеханізацыя", з колькасцю работнікаў менш за 100 чалавек – СУП "ЧысцьБау".

У намінацыі "Лепшы галоўны спецыяліст сельскай гаспадаркі" сталі галоўны бухгалтар ААТ "Хоўхлава" **Ала Радына**, галоўны інжынер ААТ "Заскавічы" **Віктар Петрусенка**, галоўны аграном СУП "ЯхімоўшчынаАгра" **Алена Шаломская**.

**Галіна СІНІЦА.**

● УДАКЛАДНЕННЕ

## Былога дырэктара "Маладзечнаводаканала" звольнілі па дэкрэце №5

**МАЛАДЗЕЧНА. У №10 ад 6 сакавіка "Рэгіянальная газета" пісала пра тое, што дырэктару "Маладзечнаводаканала" не працягнулі кантракт.**

Як удакладніла начальнік кадрава-юрыдычнага бюро КУП "Маладзечнаводаканал" **Наталля Субач**, **Станіслава Бакуна** звольнілі паводле першага пункта артыкула №47 Працоўнага кодэкса Беларусі. Ён прадугледжвае пакаранне за аднаразовае грубае парушэнне працоўных абавязкаў кіраўнікамі арганізацый і яго намеснікамі, галоўным бухгалтарам і яго намеснікам.

Загад выдадзены дзяржаўным аб'яднаннем жыллёва-камунальнай гаспадаркі Мінскай вобласці.

**Галіна СІНІЦА.**

АДПАЧЫНАК

# Аграсядзібам трэба шукаць "фішку"

**ВАЛОЖЫН, МЯДЗЕЛ. Мядзельскі і Валожынскі раёны ўвайшлі ў пяцёрку лідараў па колькасці аграсядзібаў. Мядзельскі раён з 65 сядзібамі – на другім месцы, абагнаў яго толькі Мінскі. Валожынскі раён – на пятым, тут 33 сядзібы.**

Прыводзіць БЕЛТА яшчэ такую лічбу. Паток турыстаў у аграсядзібы Мінскай вобласці ў 2014 годзе павялічыўся на 21% у параўнанні з 2013-м.

Але гэты год не будзе такім удалым. Пра прагнозы і тое, як завабіць адпачывальнікаў у нялёгкія для турыстычнай галіны часы, расказалі старшыні грамадскіх саветаў па аграэкатурызму Валожынскага і Мядзельскага раёнаў.

### "Сядзібам нельга быць падобнымі адна на адну"

Летась у аграсядзібах на Валожыншчыне адпачыла прыстойная колькасць і расіян, і гасцей з далёкага замежжа. Сёлета назіраецца істотны спад, сцвярджае старшыня Валожынскага раённага грамадскага савета па аграэкатурызму уладальнік аграэкасядзібы "Ганка" **Анатоль Ганец**:

– Эканамічны крызіс у Расіі бумерангам ударыў па нас. Расіяне сталі менш тэлефанаваць. І выбіраюць месца для адпачынку там, дзе больш танна. Зараз пару сядзібаў часова прыпынілі дзейнасць.

Але дапамагае перажыць нялёгкія часы тое, што практычна кожная сядзіба на Валожыншчыне займела якую-небудзь сваю "фішку".

– Нельга быць падобнымі адна на адну і даваць толькі начлег і снеданак. Трэба мець свае незвычайныя "фішкі", якія маглі б прыцягваць гасцей. Ні ў якім разе не трэба стаяць на месцы. Трэба ўдасканальвацца, штосьці новае прыдумваць.

**– Якія "фішкі" ёсць на Валожыншчыне?**

– Не думаю, што ў любым з раёнаў ёсць столькі ўсялякіх экамузеяў, як у нашым – гэта прыцягвае людзей. Новыя анімацыйныя праграмы зрабілі на сядзібах "Свет пчол", "Коні-поні", "Хутар дудара", "Марцінова гусь". Ёсць у нас унікальны роварны маршрут "Валожынскія гасцінцы". Тэндэнцыя такая, што ўсё больш людзей пачынае ездзіць на роварах. Роварны турызм – гэта перспектыўна.

Анатоль знайшоў свой рэцэпт пераадолення цяжкасцяў:

– Наша сядзіба пераключылася на дзіцячыя групы з Беларусі. Падрыхтавалі анімацыйныя праграмы, якія прыцягваюць школьнікаў з Мінска і сталічнай вобласці. Таксама пагледзелі, што цэны ні ў якім разе нельга падымаць. Лепш узяць на абароце.

**Анатоль Ганец лічыць, што будуць існаваць тыя сядзібы, якія рэальна працуюць, прыдумваюць штосьці новае і крэатыўнае. Тыя ж, якія не хочуць рухацца наперад, а толькі прымаюць гасцей на начлег, з часам закрыюцца.**

### "Турыст паедзе туды, дзе яму будзе цікава"

Старшыня грамадскага Савета аграсядзібаў Мядзельскага раёна **Наталля Баран** лічыць, што прагнозы на гэты год даваць яшчэ рана:

– Аграсядзібы на Мядзельшчыне больш разлічаныя на працу ў летні сезон. І якім ён выдасца, сказаць цяжка. Аднак, сапраўды, тэлефанаванняў, зваротаў стала нашмат менш.

Падтрымлівае яна думку, што кожная сядзіба павінна мець сваю асаблівасць:

– Калі ў каго яе няма, то будзе стаяць пустая. Выбар цяпер у турыстаў вялікі. Чалавек паедзе туды, дзе яму будзе цікава. Калі хто з уладальнікаў аграсядзібаў думае, што толькі "аддаў ключы і жывіце", то толку з гэтага не будзе. Наступным разам адпачывальнік да іх не прыедзе і сваім знаёмым не парэкамендуе. Таму хацелася б , каб больш аграсядзібаў развівалася, здзіўляла нечым гасцей, а не проста давала начлег улетку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЛІЧБА НУМАРА

## 122 146

*Столькі турыстаў наведалі летась аграсядзібы Мінскай вобласці*

*Паводле БЕЛТА*

Інфаграфіка Алеся ВЫСОЦКАГА.

| Курсы валют НБ РБ | 5.03 руб. | 12.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 15 080,00 | **15 200,00** |
| Еўра | 16 840,00 | **16 250,00** |
| Злоты | 4 058,67 | **3 912,86** |
| Расійскі рубель | 242,00 | **243,00** |
| Грыўня | 580,00 | **696,28** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 11.03** | | |
| Еўра | 16700/16950 | **15900/16260** |
| Долар ЗША | 14950/15120 | **14900/15250** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.03 | 11.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 24800 | **25800** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39900 | **39900** |
| Селядзец, 1 кг | 41300 | **42500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **13900** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13200 | **13200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **13000** |
| Алей "Масловія" | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 3900 | **3900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7500 | **6900** |
| Капуста, 1 кг | 5900 | **5900** |
| Морква, 1 кг | 5900 | **5900** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **5900** |
| Лімоны, 1 кг | 26900 | **24900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19500 | **19900** |
| Мандарыны, 1 кг | 22800 | **24900** |
| Памідоры, 1 кг | 34900 | **32900** |
| Агуркі, 1 кг | 33900 | **39900** |
| Перац, 1 кг | 39900 | **43000** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **34900** |
| Бананы, 1 кг | 24500 | **24000** |
| Хурма, 1 кг | 39000 | **40000** |
| Яблыкі, 1 кг | 7500 | **10900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24500 | **23900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

ЭКАНОМІКА

## На Вілейшчыне плануюць сабраць 300 тон бярозавіку

**ВІЛЕЙКА. У Вілейскім доследным лясгасе пачалі нарыхтоўваць бярозавік.**

Для гэтых мэт закупілі мяшкі для збору соку, намецілі ўчасткі і выпісалі лясныя білеты для лясніцтваў, расказала намеснік дырэктара па ідэалогіі лясгаса **Таццяна Аніщчык**.

Сёлета плануюць сабраць 300 тон соку. Будуць рэалізоўваць яго перапрацоўчым прадпрыемствам і насельніцтву.

У лясніцтвах вызначылі ўчасткі лесу, прызначаныя для нарыхтоўкі бярозавіку грамадзянамі. Таксама ў лясніцтвах можна будзе набыць нарыхтаваны сок. Адзін кілаграм у лясніцтве абыдзецца 1500 рублёў, на месцах збору соку – 1200 рублёў.

За парушэнне правілаў збору бярозавіку можна атрымаць папярэджанне або штраф. Фізічную асобу могуць аштрафаваць да 20 базавых велічынь, індывідуальнага прадпрымальніка – да 100, юрыдычную асобу – да 500 базавых велічынь.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота забяспечана Раманам КУЛЯШОМ.

Аварыя на перакрыжаванні вуліц Вялікі Гасцінец і Хмяльніцкага. Пасажырка аднаго з аўтамабіляў – жанчына прыкладна на 9-м месяцы цяжарнасці.

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Ля гімназіі №6 адбыліся дзве аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА. За апошні тыдзень на перакрыжаванні Вялікага Гасцінца з вуліцай Хмяльніцкага адбыліся два здарэнні. Адно – восьмага сакавіка з удзелам цяжарнай жанчыны-пасажыркі.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Кіроўца аўтамабіля "Дэу-Матыс" парушыла правілы праезду перакрыжавання.

Адразу пасля аварыі яе адвезлі ў прыёмны пакой Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы.

Нягледзячы на тое, што відавочных траўмаў не было, яе паклалі на абследаванне. Жанчына ўжо на 35-36 тыдні цяжарнасці, прыкладна на дзявятым месяцы.

Здарэнне адбылося каля палову другой гадзіны дня, распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

60-гадовы кіроўца "Опеля-Зафіры" ехаў па Вялікім Гасцінцы ў бок Смаргоні. Пры развароце на перакрыжаванні не саступіў аўтамабілю "Альфа-Рамэа", які меў перавагу ў руху. 35-гадовы кіроўца ехаў з боку Смаргоні ў накірунку Мінска, разам з ім была цяжарная жанчына.

Адбылося сутыкненне. Машыны атрымалі механічныя пашкоджанні. Адна з іх знесла святлафор.

Кіроўцу "Опеля-Зафіры" прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.

### Парушыла правілы пры развароце

Яшчэ адна аварыя адбылася 5 сакавіка ў восем гадзін раніцы.

Кіроўца ехала на "Дэу-Матыс" па Вялікім Гасцінцы ў накірунку Смаргоні. На перакрыжаванні з вуліцай Багдана Хмяльніцкага ёй трэба было павярнуць налева. Жанчына выехала на перакрыжаванне на зялёны сігнал святлафора.

Насустрач ехала кіроўца на "Опелі-Астры" ў накірунку Мінска па крайняй левай паласе. Машыны сутыкнуліся.

На кіроўцу "Дэу-Матыс" складзены пратакол за парушэнне правіл праезду перакрыжавання. На кіроўцу аўто "Опель-Астра" – за праезд на недазволены сігнал святлафора.

Жанчына, якая ехала на "Дэу-Матыс" атрымала нязначныя цялесныя пашкоджанні. "Хуткая дапамога" агледзела яе і адпусціла дамоў.

Кіроўцы аўто "Дэу-Матыс" 44 гады, кіроўцы "Опеля" 30 гадоў.

Пра здарэнне распавёў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

**Настасся РОЎДА, Галіна СІНІЦА.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Напаў на бабулю і забраў у яе грошы

**МАЛАДЗЕЧНА. 79-гадовая жанчына жыве ў Мінску, але ў яе ёсць дом і ў Маладзечне. На выхадныя яна прыехала, каб праверыць, ці ўсё ў парадку.**

Выйшла на чыгуначным прыпынку "Фестывальны", пайшла ў накірунку завода парашковай металургіі. Ззаду за ёй нехта ішоў. Ён ударыў жанчыну два разы па галаве і забраў сумку, у якой быў кашалёк са 180 тысячамі рублёў. Гэты нехта забраў грошы, пасля выкінуў сумку і кашалёк.

Узбуджаная крымінальная справа.

Здарэнне адбылося 7 сакавіка каля 11 гадзін дня.

Пра выпадак паведаміў старшы следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

**Галіна СІНІЦА.**





● СЛУЖБА 101

## Ратаваў сужытніцу з пажару, але самому спатрэбілася дапамога

**СМАРГОНЬ. Пажар адбыўся ў дзесяць вечара 9 сакавіка. У жылым доме знаходзіўся 60-гадовы пенсіянер з сужытніцай.**

Мужчына адчуў пах дыму, прачнуўся, разбудзіў жанчыну. Яна выйшла з дому самастойна. А вось сам ён не змог – быў п'яны.

Брыгада "хуткай дапамогі" адвезла яго ў рэанімацыю. Папярэдні дыягназ – атручэнне прадуктамі гарэння, алкагольная інтаксікацыя.

У выніку пажару пашкоджаная маёмасць у доме, закураныя сцены і столь.

Прычына пажару высвятляецца. Адна з версій – кароткае замыканне электраправодкі свяцільні.

**Паводле Сяргея Зянько, "Чалавек і закон".**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Віляйчан затрымалі са 100 кілаграмамі насення маку

**ВІЛЕЙКА. Увечары 26 лютага на Брэстчыне ў Кобрынскім раёне праваахоўнікі затрымалі двух жыхароў Вілейкі. У іх у машыне "Хундай" знайшлі і канфіскавалі 100 кілаграмаў насення маку.**

Адправіліся на Брэстчыну за макам 23-гадовы і 36-гадовы віляйчане. Адзін з іх быў судзімы за незаконны абарот наркотыкаў.

Ідзе разбіральніцтва. Машыну ў віляйчан забралі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ноччу скралі авечак

**ВАЛОЖЫН. Здарэнне адбылося ў вёсцы Доры ў ноч з пятніцы на суботу 7 сакавіка.**

У міліцыю звярнуўся мясцовы жыхар і паведаміў, што ноччу ў яго двары хтосьці ўзламаў навясны замок у хляве. Адтуль скраў тры авечкі.

– Шкода ад крадзяжу прыкладна шэсць мільёнаў рублёў, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Валожынскага РАСК **Аляксандр Шульга.**

**Наталля ТУР.**

## Да смерці збіў бацьку

**СМАРГОНЬ. Вечарам у сераду, 4 сакавіка, у сваім доме са слядамі збіцця знайшлі труп 68-гадовага мужчыны.**

Затрымалі падазраванага – 34-гадовага сына загінулага. Пра гэта паведамляе прэсслужба Міністэрства ўнутраных спраў.

Цела знайшлі пасля 21 гадзіны. Паводле папярэдняй версіі, вечарам 3 сакавіка п'яны сын падчас сваркі збіў бацьку.

Узбуджаная крымінальная справа.

**Сяргей ЗЯНЬКО, "ЧіЗ".**

● МЫТНЯ

## Збіраліся перайсці мяжу

**СМАРГОНЬ. АШМЯНЫ. Чатырох грамадзян В'етнама і чатырох грамадзян Грузіі затрымалі, калі тыя спрабавалі перайсці мяжу з Літвой.**

4 сакавіка смаргонскія памежнікі атрымалі інфармацыю ад мясцовага жыхара, што ў населеным пункце Дайноўка ёсць невядомыя людзі. У чатырох кіламетрах ад мяжы затрымалі грамадзяніна В'етнама. Праз некаторы час затрымалі яшчэ трох.

У ноч на 5 сакавіка на пункце "Ашмяны" ў 350 метрах ад мяжы затрымалі чатырох грамадзян Грузіі.

Затрыманыя змешчаныя ў ізалятар часовага ўтрымання для далейшага разгляду справы.

**Паводле дзяржпагранкамітэта.**

● КРАДЗЯЖЫ

## Скраў 14 курэй і пеўня

**МАЛАДЗЕЧНА. 8 сакавіка ў міліцыю звярнулася 67-гадовая жанчына. Хтосьці ўзламаў замок у хляве і скраў адтуль 14 курэй і аднаго пеўня.**

Узбуджаная крымінальная справа.

Пра здарэнне распавёў старшы следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч.**

**Галіна СІНІЦА.**




Многія сем'і мараць пра сваё жыллё. Сёлета ў іх з'явіўся шанец атрымаць жыллё з падтрымкай і фінансаваннем дзяржавы.

● ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Каму з навасельцаў дапаможа дзяржава

## Апублікаваны спіс жылых дамоў і аб'ектаў, будаваць якія дапаможа дзяржава

**На старонках нацыянальна-прававога партала апублікаваная пастанова ўрада, дзе даецца пералік дамоў, інжынерных і транспартных аб'ектаў, будаўніцтва і фінансаванне якіх сёлета будзе падтрыманае дзяржавай.**

У нашым рэгіёне гэта:

### Ашмянскі раён

Магістральныя інжынерныя сеткі да мікрараёна шматкватэрнай жылой забудовы па вуліцы Барунскай, Ашмяны.

70-кватэрны жылы дом №9 у квартале шматкватэрнай жылой забудовы па вуліцы Барунскай, Ашмяны.

40-кватэрны жылы дом №3 квартала шматкватэрнай жылой забудовы па вуліцы Барунскай, Ашмяны.

70-кватэрны жылы дом №4 квартала шматкватэрнай жылой забудовы па вуліцы Барунскай, Ашмяны.

### Смаргонскі раён

Квартал шматпавярховай забудовы па вуліцы Інжынернай, Смаргонь.

Квартал шматпавярховай забудовы па вуліцы Інжынернай, Смаргонь. 40-кватэрны жылы дом (пазіцыя па генплане №13).

Квартал шматпавярховай забудовы па вуліцы Інжынернай, Смаргонь. 70-кватэрны жылы дом (пазіцыя па генплане №№14, 15).

### Астравецкі раён

Праект забудовы, магістральныя сеткі і вуліцы мікрараёна №2 у Астраўцы. Жылы дом №25.

### Вілейскі раён

Інжынерныя сеткі да шматкватэрнага арэнднага дома "Паўночны-32", Вілейка.

Пазаплошчавыя інжынерныя сеткі мікрараёна Паўночны-2, Вілейка. Ачышчальныя збудаванні ліўневай каналізацыі з каналізацыйна-помпавай станцыяй.

Пазаплошчавыя інжынерныя сеткі мікрараёна Паўночны-2, Вілейка. Добраўпарадкаванне ўнутрыквартальных праездаў (1-я, 2-я чэргі).

Шматкватэрны жылы дом, Вілейка.

Шматкватэрны жылы дом "Паўночны-33", Вілейка.

### Валожынскі раён

ЖБСК "Мара-2012", Валожын.

ЖБСК "Мара-2013", в. Паморшчына.

Пазаплошчавыя інжынерныя сеткі да шматкватэрнага жылога дома ЖБСК "Альянс-2010", Валожын, уключна з крэдыторскай запазычанасцю.

Пазаплошчавыя інжынерныя сеткі да 60-кватэрнага арэнднага жылога дома, Валожын.

Запазычанасць па будаўніцтве аб'ектаў інжынернай і транспартнай інфраструктуры, уведзеных у эксплуатацыю ў папярэднія гады.

### Маладзечанскі раён

ЖБСК №110, №46 па генеральным плане, мікраён №11 Усходні, Маладзечна, пазаплошчавыя інжынерныя сеткі (перанесеныя работы).

ЖБСК "Рамонак-Чысць", Чысць.

Пазаплошчавыя інжынерныя сеткі да шматкватэрнага жылога дома камерцыйнага выкарыстання па г.п. №48 у мікрараёне №11 Усходні, Маладзечна, уключна з праектна-вышуковымі работамі.

Інжынерныя сеткі і добраўпарадкаванне мікрараёна №7, Маладзечна. 1-я чарга: пешаходна-транспартная сувязь, што злучае аўтадарогу Р-106 Маладзечна-Смаргонь і вул. Крынічную, Маладзечна.

Інжынерныя сеткі да мікрараёна Усходні. 3-я чарга. Абуладкаванне безбар'ернага асяроддзя ў мікрараёне №11 Усходні, Маладзечна, уключна з праектна-вышуковымі работамі.

Інжынерныя сеткі мікрараёна Усходні. 4-я чарга. 1 і 2 пускавыя комплексы. Ачышчальныя збудаванні.

Інжынерныя сеткі да мікраёна шматкватэрнай жылой забудовы, абмежаванай вуліцамі Скарыны, Міру, Маладзечна, і вул. Снежнай, в. Рагазы.

Інжынерныя сеткі да жылога дома сацыяльнага тыпу ў мікрараёне №6, Маладзечна.

Інжынерныя сеткі і добраўпарадкаванне да шматкватэрнага жылога дома для адсялення са старога жылля г.п. Радашкавічы, уключна з праектна-вышуковымі работамі.

Пазаплошчавыя інжынерныя сеткі і добраўпарадкаванне да 24-кватэрнага жылога дома ЖБСК-2 в. Краснае, уключна з праектна-вышуковай работай і запазычанасцю.

Інжынерныя сеткі і добраўпарадкаванне да шматкватэрнага жылога дома камерцыйнага выкарыстання ў Радашкавічах, уключна з праектна-вышуковымі работамі.

Жылы дом №11-г, уключна з праектна-вышуковымі работамі, мікраён №5, Маладзечна.

Шматкватэрны жылы дом, вул. Сухая, Маладзечна, мікраён №5, Маладзечна.

Інжынерныя сеткі па генплане да шматкватэрных жылых дамоў №20-а, №20-б, №20-в, №20-г, №20-д у мікрараёне №4 Маладзечна, уключна з праектна-вышуковымі работамі.

### Мядзельскі раён

ЖБСК "Лазурны", Мядзел.

Запазычанасць па будаўніцтве аб'ектаў інжынернай і транспартнай інфраструктуры, якія ўведзены ў эксплуатацыю ў ранейшыя часы.

Пазаплошчавыя інжынерныя сеткі да 100-кватэрнага жылога дома у к.п. Нарач, уключна з праектна-вышуковымі работамі (ЖБСК "Спадарожнік-2010").

Больш падрабязна, з указаннем тэрмінаў фінансавання, сум можаце прачытаць на нацыянальна-прававым партале http://pravo.by

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# У конкурсе прыгажосці ў Красным удзельнічалі жанчыны ад 25 да 65 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс прайшоў 10 сакавіка ў Красненскім Доме культуры.**

У ім удзельнічалі дзевяць жанчын: **Алеся Шчарбакова**, **Галіна Крук**, **Дыяна Кучко**, **Алена Жыжнеўская**, **Ганна Верацейка**, **Святлана Смоліч**, **Аксана Мірашнічэнка**, **Алеся Козел**, **Веранiка Саковіч**.

### Былі чатыры конкурсы

Жанчыны спаборнічалі ў чатырох конкурсах. У першым – "Гаспадынька" – трэба было прадставіць вытанчаную страву і даказаць журы, што яна сапраўды незвычайная. У ім перамагла Ганна Верацейка, яна стала Місіс гаспадынькай.

Арыгінальныя летнія касцюмы ўдзельніцы дэманстравалі ў конкурсе "Німфы лета".

У конкурсе "Цёмны конік" удзельніцы паказалі аратарскае майстэрства. Ім прапаноўвалі адказаць на два пытанні. Напрыклад, што вам падабаецца ў характары сваёй другой палавінкі; якім, на вашу думку, павінен быць самы цікавы адпачынак. У конкурсе перамагла Алеся Козел. Яна стала Місіс інтэлект.

– Чацвертае заданне "У гасцях у казкі" – адно з самых творчых на маю думку, – расказвае дырэктар Красненскага Дома культуры **Таццяна Каляда**. – Жанчыны прадстаўлялі сябе ў вобразах казачных персанажаў. Алеся Шчарбакова была Лісой Алісай, Галіна Крук – Нязнайкай, Дыяна Кучко – прынцэсай Забавай, Алена Жыжнеўская – пчолкай Маяй, Ганна Верацейка – бабай Ягой, Святлана Смоліч – Чырвоным капялюшыкам, Аксана Мірашнічэнка – Мухай-Цакатухай, Алеся Козел – Снягурачкай, Веранiка Саковіч – Мальвінай.

### У конкурсе не было прайграўшых

Пераможцай стала Алеся Шчарбакова. Місіс усмешка – Дыяна Кучко, Місіс сарамлівасць – Святлана Смоліч, Місіс зачараванне – Алена Жыжнеўская, Місіс артыстычнасць – Галіна Крук, Місіс арыгінальнасць – Веранiка Саковіч.

Місіс глядацкіх сімпатый выбіралі гледачы, яны маглі прагаласаваць за ўдзельніцу, якая спадабалася, на працягу ўсяго конкурсу. Ёй стала Аксана Мірашнічэнка.

У журы былі старшыня Красненскага выканаўчага камітэта **Валянціна Кісель**, дырэктар завода "БелПласт" **Леанід Кезік**, наменнік дырэктара "ЗабудовыАгра" **Анатоль Татарынчык**, дырэктар Красненскага кансервавага камбіната **Лідзія Шарамет**, адміністратар сайта "Краснае бай" **Яўген Жабко**.

**Галіна СІНІЦА.**




Прыз глядацкіх сімпатый узяла Аксана Мірашнічэнка, якая працуе ў вайсковай часці ў Красным.




У краязнаўчым музеі ў Маладзечне захоўваецца ланцужок для гадзінніка, зроблены з валасоў. Ёсць сведчанні, што падобныя трафеі выкарыстоўвалі для сувеніраў і прэзентавалі вышэйшым чынам СС.

ПАМЯЦЬ

# У музеі ёсць унікальны экспанат – ланцужок з валасоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Ёсць сведчанні, што падобныя трафеі выкарыстоўвалі для сувеніраў і прэзентавалі вышэйшым чынам СС.**

Расказвае намесніца дырэктара па навуковай рабоце Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне **Наталля Палтавец**.

Ланцужок для гадзінніка з жаночых валасоў захоўваецца ў фондах музея ад 1961 года. Яго перадаў былы вязень нямецкіх канцлагераў **Леў Конан**.

Ён ураджэнец Докшыцкага раёна. Падчас Другой сусветнай вайны ваяваў на тэрыторыі Польшчы. Там трапіў у палон да немцаў. Ад 1939 года яго перакідвалі з аднаго канцлагера ў другі. У красавіку 1945 года канцлагер, у якім ён быў, вызвалілі амерыканскія вайскоўцы. Калі вяртаўся ў Беларусь, прывёз з сабой ланцужок з валасоў для гадзінніка.

### Рэчы з валасоў выкарыстоўвалі як сувеніры

Як расказвае Наталля Палтавец, яго блізкія не распытвалі падрабязна, што адбывалася з мужчынам у канцлагерах. Ведалі, што такія ўспаміны для яго непрыемныя. Не вярэдзілі душэўныя раны. Таму звестак не захавалася.

Ланцужкі з валасоў плялі ў Бухенвальдзе – адным з буйнейшых лагераў смерці на тэрыторыі Германіі. Верагодна, што менавіта адтуль ланцужок і трапіў у Мінскую вобласць.

### Чалавечая галава памерам з кулак

Падчас Нюрнбергскага працэсу Савецкі Саюз прывёў доказы бесчалавечных адносінаў гітлераўскай Германіі да вязняў канцлагераў. У доказ гаварылі пра тое, што ў нямецкіх канцлагерах выраблялі сувеніры з частак чалавечага цела.

Так, напрыклад, знайшлі чалавечую галаву, зменшаную да памераў мужчынскага кулака. Яна была абрамлёная ў мармуровую падстаўку.

Для падобных сувеніраў пераважна выкарыстоўвалі людзей са светлымі валасамі і блакітнымі вачамі.

### Існавала галіна па перапрацоўцы чалавечага цела

У Данцыгу ў Германіі існаваў навукова-даследчы цэнтр. З чалавечага тлушчу варылі мыла. Са спаленых астанкаў чалавека рабілі ўгнаенні. Скура ішла для галантарэйных вырабаў, з яе рабілі абгорткі для кніг, туфлі і нават пінжакі.

Таксама валасамі набівалі матрацы, выкарыстоўвалі ў нямецкіх падводных лодках, танках.

У выніку даследаванняў у навукова-даследчым цэнтры прыйшлі да высновы, што чалавечае цела ўтрымлівае ад сямі да васьмі літраў вады, тлушчу – на дзевяць кускоў мыла, вугляроду – на дзевяць тысяч алоўкаў, фосфару – на 2200 галовак запалак, жалеза – на адзін цвік сярэдніх памераў.

Ланцужок для гадзінніка, зроблены з жаночых валасоў, можна будзе ўбачыць у краязнаўчым музеі ў красавіку на выставе, якая адкрыецца да 70-годдзя Перамогі. На ёй будуць прадстаўленыя стралковая зброя, амуніцыя, ваенныя дакументы, салдацкія кніжкі, савецкія ўзнагароды Герояў Савецкага Саюза **Фёдара Маркава** і **Андрэя Валынца**.

### Немцы падраблялі газеты

Можна будзе пагледзець нямецкія прапагандысцкія выданні, лістоўкі, якія агітавалі людзей ісці служыць у паліцыю, плакаты "Раздавім фашысцкую гадзіну", нумары "Савецкай Беларусі", якія выдавалі немцы:

– Звонку газета выглядала, як і звычайна, тыя ж самыя загалоўкі, афармленне, – расказвае **Наталля Палтавец**. – Аднак у самім тэксце была нямецкая прапаганда. Гэта часта пад маньвала мясцовае насельніцтва.

На выставе будзе пісталет у кабуры **Мікалая Андрыякіна**, які знайшлі ў Чысцінскіх балотах. Таксама рэшткі яго самалёта. Хірургічная сумка партызанскага хірурга **Наталлі Мацісон**. Рэчы генерала **Івана Ляцецкага**, які вызваляў Маладзечна і Барысаў. Яго генеральскі планшэт захоўваецца ў фондах музея ў Маладзечне, а вось мундзір – у Барысаве. Гэтыя рэчы нарэшце аб'ядноўваюцца ў час выставы.



**Галіна СІНІЦА.**
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

**Даведка "РГ".**
Нюрнбергскі працэс – міжнародны суд над былымі кіраўнікамі гітлераўскай Германіі. Ён ішоў амаль год ад 20 лістапада 1945 года да 1 кастрычніка 1946 года ў Міжнародным ваенным трыбунале ў Нюрнбергу (Германіі). Усяго былі праведзеныя 403 судовыя слуханні.

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## Прымаюць заяўкі на ўдзел у конкурсе "Час жыць!"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Конкурс-фестываль моладзевых творчых ініцыятыў праводзіць Палац культуры сумесна з моладзевым клубам "Дыялог+". Заяўкі можна падаваць да 15 красавіка.

Фестываль пройдзе 15 - 17 мая.

У конкурсе могуць удзельнічаць людзі, якія займаюцца рознымі накірункамі творчасці: фатаграфуюць, малююць, іграюць на музычных інструментах, пішуць вершы, празаічныя творы, спрабуюць здымаць кіно. Да конкурсу могуць далучыцца і людзі, якія займаюцца дабрачыннасцю.

Тэлефон для даведак: **(80176) 74-62-42, (8029) 334-37-36, (8029) 753-52-60.**

**Паводле паведамлення Палаца культуры ў Маладзечне.**

## З Міжнароднага конкурсу калектывы школы мастацтваў у Смаргоні прывезлі дыпломы

**СМАРГОНЬ.** Ад 27 лютага да 1 сакавіка ў Вене праходзіў IV Міжнародны фальклорны фестываль. У ім удзельнічала больш за 40 краін свету.

Кожны з калектываў з дзіцячай школы мастацтваў імя Агінскага: узорны ансамбль танца "Вілляначка", узорны ансамбль народнай песні "Кучароначкі", узорны ансамбль народнай музыкі "Гулянок" прывёз дыпломы. І адзін з дыпломаў прызначаны для дзіцячай школы мастацтваў.

Як распавяла намесніца дырэктара па выхаваўчай рабоце **Марына Пахомава**, цяпер творчыя калектывы дзіцячай школы мастацтваў імя Агінскага рыхтуюцца да Міжнароднага фальклорнага фестывалю-конкурсу "Зорка Сан-Марына". Ён пройдзе 9 - 16 мая ў Рыміне (Італія).

**Галіна СІНІЦА.**

## У Вілейцы выбіралі "Новыя імёны Беларусі"

**ВІЛЕЙКА.** У Палацы культуры 27 лютага прайшоў раённы этап рэспубліканскага моладзевага вакальнага конкурсу "Новыя імёны Беларусі". Было 18 удзельнікаў ад 11 прафсаюзных арганізацый.

Права ўдзелу ў абласным этапе, дыпломы першай ступені і падарункі атрымалі **Уладзімір Высоцкі, Тарас Апарык і Таццяна Чаўлытка.**

Таксама адзначылі іншых яркіх выканаўцаў у эстрадным жанры, якіх будуць запрашаць да ўдзелу ў культурных праектах, расказала намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Вырабы з макароны можна паглядзець на выставе ў Мядзеле

**МЯДЗЕЛ.** Ад 10 сакавіка ў раённай бібліятэцы імя Максіма Танка пачала працаваць выстава "Жаночая фантазія".

На ёй прадстаўленыя работы з макароны: шкатулкі, кветкі рамонкаў, васількоў. Усяго 15 экспанатаў.

Пра выставу расказала загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі раённай бібліятэкі імя Максіма Танка **Ірына Цыгельнікава.**

**Галіна СІНІЦА.**

## На Ашмяншчыне пройдзе вечарына да Дня Перамогі

**АШМЯНЫ. 14 сакавіка, у суботу, у аграгарадку Мураваная Ашмянка адбудзецца вечарына-ўспамін да 70-годдзя Перамогі "Дзяцінства, апаленае вайной".**

Пра вайну ўзгадаюць людзі, якія яе перажылі: былы настаўнік музычнай школы **Мікалай Розенберг**, былы настаўнік музычнай школы **Жанна Кірышчанка**, былы фармацэўт **Зінаіда Швабовіч**.

Падчас мерапрыемства прагучаць ваенныя песні, пройдзе прагляд мультымедыйнай прэзентацыі.

Пра мерапрыемства расказала загадчыца сельскага філіяла-клуба ў аграгарадку Мураваная Ашмянка **Аліна Лыскойц**.

**Галіна СІНІЦА.**

• Здам у арэнду ці прадам памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м, тэрмінова. ІП Шарох В.М. УНП 691402596 . Т. (8-029) 5551515.*

## НАЙМУ

• 3,4-пакаёвую кватэру ў Маладзечне з мэбляй і еўрарамонтам на доўгі тэрмін для сям'і з 2 чалавек. Разгледзім усе варыянты. Т. (8-025) 7880034.



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК. ЧОРНЫ БМВ У ПАДАРУНАК**. ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **AM-VIDEO, ВІДЭАЗДЫМКА HD, МАНТАЖ**. ІП Малько А.Г., УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Відэа-фота ўрачыстасцяў, святаў, карпаратываў. Тэлестудыя «Наш час». УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941, (8-0176) 544670.*

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• МАЗ, грузападымальнасць 10 т, па РБ. ІП Чубін В.В. УНП 691509491. Т. МТС 5740702, Вэлком 3108569.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. ІП Шеремет В.В. УНП 691289007. Т. (8-029) 2713567.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Аўтобусныя туры (экскурсійныя, з адпачынкам на моры). Падбор тураў! Гарачыя прапановы! Візавая падтрымка. Авіябілеты. ТАА "АлеОльТур" УНП 691513097 г.Маладзечна, вул. Віленская, 24. Тел. (8-0176) 770762, (8-029) 3905944.*

• **БУХГАЛТАРСКІЯ ПАСЛУГІ ДЛЯ ФІЗІЧНЫХ І ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ. СТВАРЭННЕ І ЛІКВІДАЦЫЯ АРГАНІЗАЦЫЙ, ВЯДЗЕННЕ, АДНАЎЛЕННЕ БУХГАЛТАРСКАГА ЎЛІКУ, УСЕ ПЫТАННІ ПА ЗДАЧЫ ПАДАТКОВЫХ ДЭКЛАРАЦЫЙ, ФСЗН, БЕЛДЗЯРЖСТРАХ**. ЧУП "Мегама" УНП 691887778, г.Маладзечна, ул. В.Гасцінец,143 (ГЦ "Тройка"), офіс 520. **Т. ВЭЛКОМ (8-029) 1298889, МТС (8-029) 7498889, (8-0176) 759888,** mail: megama@tut.by.*

• Вароты, агароджы, навесы, казыркі. Зварныя, кованыя. З прафнасцілу. Наяўны і безнаяўны разлік. Дастаўка, мантаж. ІП Горынаў С.В. УНП 691886651. Т. (8-033) 3917208, (8-029) 9857268.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• Выраб, выраўноўванне помнікаў, надмагілляў, бардзюраў. ІП Валынец У.В. УНП 600415484. Т. (8-029) 7656914. (8-0176) 752050.*

• Вырабім пад заказ і ў наяўнасці: альтанкі, туалеты, домікі садовыя, лаўкі, накрыўкі для калодзежаў, драўляныя агароджы. УНП КА2090527. Т. МТС (8-033) 6022193, Вэлком (8-029) 9880868.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаус, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417, (8-029) 5544175.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Еўрасцяжка. ІП Зіневіч Е.П. УНП 591702887. Тел. МТС (8-029) 2335084, Вэлком (8-029) 3823187.*

• **ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ГРМ, ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Паслугі электрыка. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

• **ПАШЫЎ АЎТАМАБІЛЬНЫХ СЯДЗЕННЯЎ І ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці і розных матэрыялаў за наяўны і безнаяўны разлік. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. (8-029) 6932184.*

• Перацяжка мяккай мэблі, рамонт матрацаў, вялікі выбар тканін. ІП Ярашэвіч Е.С., УНП 691861564. Т. (8-033) 9000440, (8-029) 6206260.*

• Рамонт ноутбукаў і камп'ютараў. Устаноўка Windows, Wi-Fi, антывірус. Выезд. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ. ПА ГОРАДУ**. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шаповал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СТАПЕЛЬНЫЯ РАБОТЫ, ЗВАРАЧНЫЯ, АНТЫКАРАЗІЙНУЮ АПРАЦОЎКУ КУЗАВА, ЗАМЕНУ АЎТАШКЛА, ПАДБОР АЎТАЭМАЛЯЎ, АФАРБОЎКУ КУЗАВА ВЫКОНВАЕ СТА "КУЗАЎ". НАЯЎНЫ І БЕЗНАЯЎНЫ РАЗЛІК. ТАА "ІНЖЫНЕРТРАНССЭРВІС" УНП 691298030. Т. (8-044) 5949555, (8-033) 6746555.***

• **СТУДЫЯ ТАТУ** "Карона Арт" прапануе татуаж броваў, павек і губ, мастацкую татуіроўку. ІП Кушч О.А., УНП 691880191. Т. (8-029) 3345044, (8-029) 7080997.*

• **ТАА "ДЭКОРМЕТ" ПРАПАНУЕ ПАСЛУГІ ПА ВЫРАБЕ МЕТАЛАКАНСТРУКЦЫЙ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ, БАЛКОННЫЯ АГАРОДЖЫ, КАЗЫРКІ, ДЭКАРАТЫЎНЫЯ АГАРОДЖЫ, ВАРОТЫ, АГАРОДЖЫ РЫТУАЛЬНЫЯ, КОВАНЫЯ ВЫРАБЫ ДЛЯ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЯ ПРЫСЯДЗІБНЫХ УЧАСТКАЎ. ДАСТУПНЫЯ ЦЭНЫ, ГОДНАЯ ЯКАСЦЬ. БУДЗЕМ РАДЫ СУСТРЭЦЬ ВАС ПА АДРАСЕ: Г. ВІЛЕЙКА, В. ІЗБІНА, ВУЛ. ДАВАТАРА, 1-В. УНП 690571838. Т. (8-01771) 24001, (8-01771) 24002, (8-029) 8791143.**

• Усе віды будаўнічых і аддзелачных работ. Якасна. ІП Зінкевіч С.Е. УНП 691362918. Т. (8-029) 6336528.*

• Усе віды будаўнічых работ. Наяўны і безнаяўны разлік. ЧБУП "ЮлМірБуд", УНП 591804221. Т. (8-029) 2827362.*



• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Кананові́ч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Вэлком.*

• Шынамантажа паслугі, раскатка дыскаў, зварка аргонам, рамонт падвескі. ІП Арол Д.Ф. УНП 691884036. Т. (8-033) 3836130, (8-044) 7841878.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Камень палявы. Вілейскі р-н. Т. (8-033) 6325292.

• Вагонка лісцёвая, хвойная, 75 000 руб т. кв. Дошкі сухія. Т. (8-029) 3886771.

• Сетка рабіца ацынкаваная 1 м, 1,2 м, 1,5 м. Т. (8-025) 5284811.*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• МТЗ-80-50, прычэп і сельгаснавясныя.Т. МТС (8-033) 3856805.*

• Трактар МТЗ-82. УК. Т. (8-029) 7871546.*

• Трактар самаробны не на хаду, 8 500 000 руб. Т. (8-029) 6847035.*

• Трактар Т-25. Т. (8-029) 2547792.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***



• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Табурэты новыя, 4 шт., 400 000 руб. Т. (8-025) 9663109.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Свінні, парасяты ў Вілейцы. Т. (8-029) 3350316.*

• Трусоў на племя і мяса; кармавыя буракі. Т. (8-029) 8580127.

• Шчаня алабая. Т. (8-029) 5719668, (8-029) 9368569.*

• Шчаняты ёрка. Т. (8-029) 5719668, (8-029) 9368569.*

• Шчаняты ёркшырскага тэр'ера (2,5 мес.), радаслоўная, стандарт, кабылькі. Т. (8-029) 6135093.*

**Іншае**

• Балон вуглекіслотны запраўлены ці абмен. Т. (8-044) 7676327.

• Бульба буйная і кабан жывой вагой каля 120 кг. Т. (8-01771) 22034. (8-044) 7714233.

• Бульба буйная Рэд-Скарлет. Магчыма дастаўка. Т. МТС (8-029) 2520233.

• Бульба буйная смачная ў Вілейцы. Т. (8-01771) 22416, МТС (8-029) 8486406.

• Бытоўкі, дачныя дамы, альтанкі, металічныя гаражы, уязныя і гаражныя вароты, лесвіцы на гарышча, навесы, агароджы. Індывідуальны падыход, дастаўка, мантаж. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Садоўскі А.В. УНП 691177949. Т. МТС (8-029) 5752805, Вэлком (8-029) 3334403.*

• Вокны ПВХ 1,50x1,20 (2 шт.). Вокны драўляныя (шклопакеты) 0,86x0,56 (3 шт.), 1,46x0,56 (2шт,) Дзверы ПВХ (узмоцненыя, глухія) 2,00x1,25 (2 шт.). Шклаблокі – 47 шт. Танна. Т. Вэлком (8-029) 3590794. Вэлком (8-029) 1920432.*

• **ВЫРАБЫ З МАСТАЦКАЙ КОЎКІ.** Вароты, казыркі, поручні, агароджы, садовая мэбля і інш. **ЦЯПЛІЦЫ** з прафільнай ацынкаванай трубы па вельмі нізкіх цэнах. ІП Вараноўіч А.М. УНП 691175298. Т. (8-029) 5355470, (8-029) 2728695.*





• Дровы, можна колатыя. Т. (8-044) 7676327.

• Зруб лазні новы 3x4 з мансардай 2x4. Т. МТС (8-033) 6577783.

• Інкубацыйныя яйкі і кураняты, май – чэрвень, розных парод. Т. (8-029) 6406985.*

• Пасека, танна. Т. (8-029) 1738122.*

• Печ у лазню. Г. Вілейка. Т. (8-029) 6165118.*

• Прагулачная каляска, колер блакітны, 1 год б/у, у добрым стане, 800 000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 5045977.

• Прафнасціл. Т. (8-029) 7606894.*

• Сена, плуг, хамут, аброць (уздечка). Т. (8-029) 2757343.

## КУПЛЮ

**Мэблю**

• **СТАЛЫ І КРЭСЛЫ ДЛЯ СТАЛОВАЙ НА 80-100 ПЕРСОН (МОЖНА Б/У). ТАА «АНАЛАГ-БУД» УНП 691396416Т. (8-029) 3292790.***

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапеды, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Батарэі чыгунныя б/у. Т. (8-029) 6319537.*











• Шкуркі куніцы. Т. (8-029) 8552646.

## ІНШАЕ

• Кабель нямецкай аўчаркі (з дакументамі) павяжа суку. Т. (8-029) 8580127.

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачніка. Усе віды, акрамя пліткі. Вялікі досвед. Т. (8-029) 3605806.

• Па касметычным і капітальным рамонце, дахавых работах. Т. (8-029) 774666, (8-029) 1035755.

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Адміністратар (дзяўчына) у сэрвісны цэнтр па рамонце мабільных тэлефонаў у Валожыне. ТДА "Клаттон" УНП 190101114. Т. (8-029) 3971772.*

• Прадавец харчовых тавараў у ЧТУП "Восторг-Лик" у Вілейцы. УНП 691168652. Т. (8-029) 7756165, (8-029) 6129815.*



Фота Наталлі ТУР.

Марыя Зяцева працуе доктарам ужо 52 гады, 25 з іх – на пенсіі.

● ПРАФЕСІІ

# Мучаюся бяссонніцай з-за хвароб пацыентаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Марыя Зяцева працуе доктарам-тэрапеўтам у першай паліклініцы амаль паўстагоддзя.**

“Рэгіянальная газета” сустрэлася з Марыяй Якаўлеўнай напярэдадні яе 80-гадовага юбілею, каб распытаць, ці не надакучыла працаваць усё жыццё і як гэта адчуваць сябе пачынальніцай дынастыі дактароў.

Да Марыі ў яе сям’і дактароў не было. Бацька быў чыгуначнікам, маці – гаспадыняй.

– А з прафесіяй дапамагла вызначыцца менавіта мама. Колькі сябе памятаю, яна заўсёды казала, што адна з яе дачок будзе доктарам, а другая – настаўніцай. Так і атрымалася.

Пасля заканчэння медыцынскага інстытута Марыю Зяцеву накіравалі па размеркаванні ў вёск Іжа, што на Вілейшчыне, а з 1968 года яна працуе ў Маладзечне.

– У Маладзечна накіравалі майго мужа **Аркадзя Канстанцінавіча Лабанка** працаваць галоўным доктарам у скурна-венералагічны дыспансер.

З мужам Марыя Зяцева вучылася на адным курсе медыцынскага інстытута. Але пазнаёміліся яны за шмат кіламетраў ад дома – у Казахстане, куды пасля першага курса адправілі студэнтаў скараць цаліну.

– Тады мой будучы муж зайшоў да нас у брыгаду папрасіць прадуктаў, бо ў іх скончыліся. Так і пазнаёміліся. Сябравалі пяць гадоў, а на апошнім курсе ажаніліся.

## Сваруся з пацыентамі, калі яны своечасова не лечацца

На пытанне, ці не надакучыла Марыі Якаўлеўне працаваць 50 год на адным і тым жа месцы, яна здзіўлена падымае вочы з-пад акуляраў.

– Не. Мне работа падабаецца. Я ж кожны дзень людзям дапамагаю. Гэта не можа надакучыць.

За столькі гадоў працы, прызнаецца Марыя Якаўлеўна, здараліся розныя выпадкі. Самыя сумныя, канешне, калі пацыент не звярнуўся своечасова і яго выратаваць не ўдалося.

– Таму я да сёння раблю заўвагі пацыентам, якія не прыходзяць на прыём да доктара своечасова або прапускаюць прызначаны прыём. Яны ж не ведаюць, што я часам да галавы іх хваробы бяру болей, чым яны самі. Бывае, здарыцца які выпадак, а ты не разумееш, што з чалавекам. Так ён са сваёй хваробай цэлы дзень сядзіць у галаве. Нешта робіш, потым зноў у думках вяртаешся да яго. І ноччу, кладзешся спаць, а раптам зноў успомніш пра пацыента. Які там ужо сон?!

А адпачывае Марыя Якаўлеўна пасля працы за чытаннем.

– Не люблю я старэчыя справы – вязанне, вышыўкі. Я чытаць люблю. Увесь час захопленая кнігамі, часопісамі. Газеты свежыя кожны дзень гартаю.

## “Мама, а кім мне яшчэ быць?”

Сын і дачка Марыі Зяцевай таксама сталі дактарамі.

– Калі сын яшчэ вучыўся ў школе, ён неяк запытаўся ў нас з мужам: “Ну кім я яшчэ магу быць, калі не доктарам?” Прызнацца, я рада, што і сын, і дачка пайшлі ў медыцыну. Больш за тое, цяпер і ўнук паступіў у медыцынскі ўніверсітэт. Вучыцца і працуе ў бальніцы.

Марыя Якаўлеўна і ўнуку, і ўсім тым, хто думае звязаць свой лёс з медыцынай, раіць займацца гэтай няпростай справай ад душы. І любіць сваю работу.

## Адна Марыя Якаўлеўна такая маладзец!

Загадчыца другога тэрапеўтычнага аддзялення паліклінікі **Ганна Лескіць** адгукаецца пра Марыю Зяцеву выключна станоўча:

– За мой працоўны шлях толькі адна Марыя Якаўлеўна такая маладзец! А што пра яе сказаць, акрамя добрых слоў? Яна і старанная, і адказная. Ніколі не адмаўляецца ад удзелу ў канферэнцыях, ведае назвы ўсіх навамодных лекаў. І дзякуй ёй вялікі за тое, што нават пасля 25 гадоў, як на пенсіі, яна працягвае працаваць. І вельмі нас ратуе. Што тут хаваць? Кадраў у нас не хапае.

**Наталля ТУР.**

● ГІСТОРЫЯ

# Як Івянец перажыў вайну

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №10.*

**ВАЛОЖЫН. Якімі страшнымі былі чатыры гады вайны для тых, хто застаўся ў Івянцы, і як мястэчка вызвалілі, распавядае бібліятэкар Ігар Солтан.**

Целы ў яме засыпаліся вапнай. Потым яшчэ некалькі дзён зямля на магіле варушылася.

Расстрэльвалі літоўскія паліцаі, мясцовыя ў "акцыі" ўдзелу не прымалі, стаялі у ачапленні. Пакаранні смерцю прымяняліся і ў адносінах да людзей іншых нацыянальнасцей. Каралі за любую правіннасць. Расстрэльвалі на праваслаўных могілках. Там былі дзве магілы, але заваліся толькі адна. Расстрэлы адбываліся кожны дзень, таму магілы стаялі раскрытымі па некалькі месяцаў. Нябожчыкаў перасыпалі вапнай.

## На барацьбу з ворагам падняліся самі людзі

Нягледзячы на расстрэлы і жахі таго часу, івянецкія людзі пачалі барацьбу з ворагам. Была створаная івянецкая група супраціўлення, яна падпарадкоўвалася Арміі Краёвай (польскія партызанскія атрады, якія дзейнічалі у Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне). Кіраваў Арміяй Краёвай Польскі эміграцкі ўрад у Лондане.

У склад івянецкай групы ўваходзілі **Казімір** і **Люцыя Дзяржынскія**, ксяндзы **Гіляры Прач** (партызанскі псеўданім Прач-Прачынскі), **Герман Стэнпень** і **Ахілес Пухала**. Спачатку яны толькі збіралі звесткі аб немцах і перадавалі іх камандаванню Арміі Краёвай, потым выйшлі на сувязь з савецкімі партызанамі.

Наступнай задачай, за якую яны ўзяліся, была праца з паліцыяй. Тут яны дасягнулі найбольшых поспехаў. Вынік іх працы быў такі, што ў час аперацыі "Перазвон" амаль уся івянецкая паліцыя перайшла на бок партызан. Дапамагалі яны і простым людзям: памяншалі падаткі, давалі ліпавыя даведкі пра выплату падаткаў, даставалі такія ж дакументы, перапраўлялі медыкаменты ў лес да партызан.

## Аперацыя "Перазвон"

Найбольш драматычнай падзеяй ў гісторыі Івянца XX стагоддзя была аперацыя "Перазвон", праведзеная партызанамі Арміі Краёвай сумесна з савецкімі партызанамі 19 чэрвеня 1943 года. У гэты дзень немцамі была прызначаная мабілізацыя людзей у так званую "Самаахову" і мабілізацыя коней у нямецкую армію. Каб усё сарваць і была прызначаная гэта аперацыя. План яе быў распрацаваны падхарунжым **Альгердам Войнам**, паручнікам **Касперам Мілашэўскім** і **Валентам Пархімовічам**. Нямецкі гарнізон налічваў некалькі дзясяткаў немцаў (жандармерыя і некалькі гаспадарчых камандаў, 20 чалавек лётчыкаў, якія адпачывалі ў санаторы ў былых польскіх казармах, 200 чалавек паліцэйскіх). Напярэдадні, ноччу, атрад з 60-і партызан прыйшоў у Івянец і схаваўся у доме Казіміра і Люцыі Дзяржынскіх.

У 12 гадзін дня ў Белым касцёле святога Міхала зазваніў звон на малітву "Анёл Панскі". У гэты час усе немцы і паліцаі пайшлі на абед. Пачуўшы гэты звон, партызаны, якія хаваліся ў Дзяржынскіх, ударылі па нямецкіх лётчыках. Гэтым атрадам камандаваў Пархімовіч. Атрад Мілашэўскага захапіў вуліцу Княсkую (цяпер Дзяржынскага). Атрад харунжага Нуркевіча разам з савецкай партызанскай брыгадай імя Чкалава блакавалі пад'езды да Івянца з боку Каменя, Валожына, Стоўбцаў, Мінска.

Увогуле першы стрэл зрабіў начальнік пажарнай каманды **Юзаф Нядзвецкі**.

Аддзяленне пад камандаваннем **Валяр'яна Жуховіча** захапіла адзін з будынкаў жандармерыі (цяпер там Дом дзіцячай творчасці). Жандары, якія там знаходзіліся, здаліся без бою. Яны знішчылі тэлефонную і радыёстанцыі. Але жандары, якія знаходзіліся ў асноўным будынку (цяпер паліклініка), своечасова спахапіліся і занялі абарону. Занялі абарону і немцы, якія знаходзіліся ў касцёле святога Міхала, а дакладней, кулямётны разлік, які быў на адной з веж касцёла.

Ува многім садзейнічала гэтаму тое, што паліцыянты, перайшоўшыя на бок партызан, былі занятыя ліквідацыяй сваіх "таварышаў", якія засталіся на баку немцаў.

Атрад Пархімовіча не здолеў захапіць казармы лётчыкаў. Пілоты адчайна супраціўляліся. Іх часць здолела прарвацца на дапамогу жандарам. Фарсіраваўшы Волму, яны пайшлі ў атаку, каб прабіцца да будынка жандармерыі і дапамагчы сваім. Але партызаны прымусілі іх адмовіцца ад гэтага намеру і вярнуцца у казармы. На месце засталося многа забітых. Двое немцаў трапілі ў палон. Ім было прапанавана пайсці парламенцёрамі да сваіх і прапанаваць ім здацца. Адзін адмовіўся і быў расстраляны, другі пайшоў і быў расстраляны сваімі.

Бой зацягваўся, падступала ноч. Жандары супраціўляліся. Партызаны вырашылі выкурыць немцаў агнём. Пажарная каманда прыцягнула пажарную помпу і бочку, якую напоўнілі бензінам, захопленым у немцаў. З бяспечнай дыстанцыі абліліі будынак бензінам і з ракетніцы падпалілі яго. На гэтым супраціўленне жандараў было скончанае. Яны вымушаныя былі пакінуць будынак, але патрапілі пад агонь партызан.

У той жа час лётчыкі працягвалі супраціўленне. Партызаны нічога не маглі з імі зрабіць, таму савецкае камандаванне паслала на дапамогу польскую групу **Свентаржыцкага** і групу разведчыкаў на чале з камісарам брыгады **Іванам Казаком**. Яны раптоўна ўварваліся у Івянец, выціснулі лётчыкаў з казармаў на дарогу, дзе іх знішчылі кулямётным агнём.

Бой закончыўся ў 6:00 раніцы. Былі захопленыя багатыя трафеі: штабныя дакументы, гарнізонныя склады са зброяй, боепрыпасамі, абмундзіраваннем, харчаваннем. А яшчэ пяць аўтамабіляў (два легкавыя, тры грузавыя), дзве гарматы, шмат спірту, 50 галоў буйной рагатай жывёлы, коней, шмат медыкаментаў. З турмы вызвалілі вязняў.

Пасля таго, як раніцай 20 чэрвеня над Івянцом праляцеў самалёт, партызаны пакінулі мястэчка і адышлі ў Налібоцкую пушчу. Гарнізон быў амаль цалкам знішчаны. Уцячы ўдалося толькі бургамістру, шэфу СД і некальким немцам. Аднаго немца па імені Ганс схавала мясцовая сям'я **Маўчановічаў**. Падчас карнай акцыі ён пацвердзіў нямецкаму афіцэру, што нападаючыя адышлі ў лес, а паліць збіраюцца невінаватых людзей. Гэтым ён дапамог Люцыі Дзяржынскай, якая спрабавала выратаваць некалькі дзясяткаў жыццяў. Па чутках, пасля гэтага ён пайшоў у лес, да партызан, дзе змагаўся са зброяй у руках супраць сваіх.

## Наступствы аперацыі "Перазвон"

Пасля гэтага прыйшла расплата. Немцы праз некалькі дзён прыслалі вайсковую часць для правядзення карнай акцыі. Яны сагналі некалькі дзясяткаў людзей у драўляную царкву, абклалі яе саломай, аблілі бензінам і падрыхтаваліся запаліць. Тут выйшла Люцыя Дзяржынская з выратаваным немцам і пачала даводзіць, што ў царкве знаходзяцца невінаватыя людзі, а партызаны пайшлі ўсе ў лес. Камандзір часці паверыў гэтым сведчанням (балазе гэта была звычайная вайсковая часць, а не СС ці паліцыя) і выпусціў людзей.

Вярнуўся "Чэх" і таксама пачаў помсціць. Ён расстрэльваў людзей па любым, хоць маленькім, падазрэнні. Тут ужо нікому літасці не было. Пасля гэтага івянецкі гарнізон быў узмоцнены. Немцы пабудавалі некалькі дотаў, выкапалі акопы вакол сваіх казармаў.



Белы касцёл святога Міхала ў Івянцы, са звону ў якім пачалася аперацыя "Перазвон".

Фота orda.of.by.

Самым страшным наступствам было тое, што немцы пачалі зноў блакаду пушчы. Гэтая аперацыя насіла назву "Герман". Падчас яе правядзення немцы планавалі знішчыць усе партызанскія групоўкі ў раёне Налібоцкай пушчы. Але партызаны своечасова захапілі нямецкую аўтамабільную калону, дзе знайшлі штабныя дакументы, якія тычыліся гэтай аперацыі. Яны своечасова падрыхтаваліся і далі дастойны адпор немцам, хоць і самі падчас баявых дзеянняў апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы. Партызан у пушчы немцам знішчыць не ўдалося.

Затое немцы напоўніцу адыграліся на мірным насельніцтве. Знішчылі дзясяткі, калі не сотні вёсак у тагачасных Івянецкім, Валожынскім, Стаўбцоўскім, Іўеўскім, Лідскім, Навагрудскім раёнах. Тысячы людзей расстралялі, дзясяткі тысяч вывезлі ў канцэнтрацыйныя лагеры ў Германіі і на тэрыторыі Беларусі. Некаторых у хуткім часе вярнулі, бо не засталося каму ўбіраць ураджай. А многія засталіся там да канца вайны.

## Вызваленне Івянца

Вызваленне ў Івянец прыйшло 6 ліпеня 1944 года. За некалькі дзён да гэтага немцы самі пакінулі Івянец, без бою. Партызаны пра гэта не ведалі і вырашылі захапіць Івянец. Ноччу з 5-га на 6-га ліпеня яны паціху ўвайшлі у Івянец і пачалі захопліваць адміністрацыйныя будынкі. Перад гэтым яны запалілі некалькі пустуючых будынкаў па вуліцы Камсамольскай з мэтай узняць паніку сярод немцаў.

Але я схіляюся да думкі, што гэта зрабілі звычайныя бандыты, якія хацелі пасеяць паніку сярод мірнага насельніцтва і пад шумок заняцца рабаваннем маёмасці.

У гэты ж самы дзень у Івянец увайшоў танкавы корпус генерала Бурдэйнага, танкі якога першымі трэцяга ліпеня ўвайшлі ў Мінск. За імі, ужо пад вечар, у Івянец увайшлі і пяхотныя часці.

Пасля вызвалення Івянца пачалося ўзнаўленне народнай гаспадаркі, барацьба з бандытызмам, а таксама з беларускімі партызанамі-нацыяналістамі, яркімі прадстаўнікамі якіх быў атрад пад камандаваннем Радзюка. Яны рабавалі пошту, магазіны, забівалі партыйных і савецкіх актывістаў.

Але паступова з імі было пакончана. Івянец канчаткова перайшоў да мірнага жыцця.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар Івянецкай бібліятэкі.**

● КАЛЯНДАР

**15 сакавіка.** 165 гадоў з дня нараджэння Вайніслава Савіч-Заблоцкага (1850, паводле іншых звестак 1849), пісьменніка, публіцыста. Памёр пасля 1893 года.

***

**17 сакавіка.** 105 гадоў з дня нараджэння Хведара Ільяшэвіча (1910 – 1948), беларускага паэта, празаіка, гісторыка, журналіста, педагога, грамадска-культурнага дзеяча эміграцыі ў Германіі. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Выкладаў беларускую мову ў Віленскай беларускай гімназіі. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім культурным жыцці, друкаваўся ў беларускіх часопісах. Да 1939 выдаў тры зборнікі вершаў. Двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1927 звольнены з працы ў гімназіі. Жыў у Тапалянах каля Беластока. Падчас нямецкай акупацыі – дзеяч Беларускага камітэта, а з вясны 1943 – старшыня Беларускага аб'яднання ў Беластоку, рэдактар штотыднёвіка "Новая дарога". У ліпені 1944 выехаў у Берлін, працаваў у рэдакцыі "Раніцы", выдаў серыю кніг у рамках "Народнай бібліятэчкі". Трагічна загінуў у аўтакатастрофе ў лагеры для перасяленцаў у Ватэнштэце.

***

**18 сакавіка.** 1921 год. Паміж РСФСР і Польшчай падпісаная Рыжская дамова, якая тэрытарыяльна падзяліла Беларусь.

***

**19 сакавіка.** 120 гадоў з дня нараджэння (1895) Тамаша Грыба (в. Паляны, цяпер Астравецкі раён), беларускага палітычнага і культурнага дзеяча. Вучыўся ў Пецярбургу. Скончыў філасофскі факультэт Карлава ўніверсітэта ў Празе (1928). Член Рады БНР і яе Выканаўчага камітэта. Уваходзіў у Цэнтральную Беларускую вайсковую раду. Быў дэлегатам 3-га Усерасійскага з'езда Саветаў у Петраградзе ў 1918 годзе. Адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Арыштоўваўся польскімі ўладамі. З канца 1920 года – у Коўне, з восені 1922 – у Празе. Абараніў доктарскую дысертацыю на тэму "Пытанне народа і нацыі". Удзельнічаў у рабоце Беларускай рады ў Празе, Беларускага культурнага таварыства імя Скарыны, Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. У 1934-38 гадах – загадчык Беларускага замежнага архіва, складаў бібліграфію па беларусазнаўстве. Памёр у 1938-м, пахаваны на пражскіх могілках Альшаны.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Падарунак на 8 Сакавіка ў “Стэлсе” – засунуць руку ў трусы стрыптызёру

**МАЛАДЗЕЧНА. Сустрэцца з сябрамі і весела адпачыць, перапіць і ванітаваць за вуглом ці ўспомніць маладосць пад хіты 90-х – чым жывуць начныя клубы Маладзечна, хто іх наведвае і як выбраць той, які падыходзіць вам.**

Адказы на гэтыя пытанні шукалі карэспандэнткі “РГ” у ноч з 7 на 8 сакавіка, параўнаўшы тры начныя клубы ў Маладзечне.




Пераможца конкурсу атрымлівае свой прыз – прыватны танец ад стрыптызёра.

### 23:30 – 01:00
### “Клаб”: канцэрта па заяўках не чакайце

У падарунак на 8 Сакавіка “Клаб” прапанаваў бясплатны ўваход для дзяўчат да апоўначы. Нягледзячы на гэта, да 12 ночы ў клубе амаль нікога няма і зусім ніхто не танцуе.

Пасля 12 літаральна за 10-15 хвілін зала напоўнілася, моладзь пачала танцаваць.

Наведніца клуба **Маргарыта** расказвае пра рытм начнога жыцця:

– Я сама з вёскі, і калі ў нас спрабавалі зачыняць клуб раней на некалькі гадзін, у людзей пачынаў уключацца “даганятар”. Хлопцы і дзяўчаты сядзелі ў дварах, пілі. Навошта вымушаць ісці да гэтага. У клубе ж моладзь пад наглядам міліцыі, ахоўнікаў. Я не хачу, каб клубы пачалі зачыняцца раней.

Па дзяўчатах відаць, што вечар правялі ля люстэрка: макіяж, укладкі, прадуманае адзенне. Хлопцы ж доўга галаву не ламалі: хто ў кашулі, хто ў пінжаках на майкі, у спартыўным касцюме.

Адзін хлопец танцуе ў шарсцяным паласатым світары. Наташа адразу вызначае: “Ну, з Вілейкі, напэўна, прыехаў”. Пытаемся – сапраўды, малады чалавек з сябрамі час ад часу прыязджае з Вілейкі менавіта ў “Клаб”, таму што тут падабаецца музыка.

У наведнікаў “Клаба” мы пытаемся, ці рэальна знайсці пару ў начным клубе. І хлопцы, і дзяўчаты адказваюць, што прыйшлі сюды не па знаёмствы, а проста патусавацца з сябрамі. Толькі адзін малады чалавек кажа, што пазнаёміўся з дзяўчынай менавіта ў “Клабе” і цяпер яны два гады, як сустракаюцца.

Галоўнае для ўсіх наведнікаў – якасныя гук і музыка.

Ды-джэй **Яўген** прызнаецца, што часам мужчыны за 30 просяць паставіць хіты 90-х, найчасцей песні гурта “Ляпіс Трубяцкі”. Даводзіцца адмаўляць: гэта не ў правілах “Клаба”.

Каля гадзіны ночы мы мяняем клуб. На ўваходзе шмат людзей. Адміністратарка **Дар’я** кажа, што цяпер у клубе каля 400 чалавек, але людзі падцягваюцца і ў тры-чатыры ночы. Да раніцы можа быць 700-800 наведнікаў, як і ў іншыя дні.

### 01:00 – 02:15
### ”Стэлс”: Тут дзяўчаты папрасцей

Непадалёк ад увахода ў клуб на стаянцы некалькі хлопцаў сядзяць у машыне і п’юць гарэлку. Яно і зразумела: у клубе за цану паўлітровай пляшкі купіш толькі адзін кактэйль з 50 грамамі алкаголю.

Як і ў “Клабе”, пашпарты ў нас ніхто не пытаецца. З парога трапляем у шчыльную дымавую заслону цыгарэтнага дыму.

Здаўшы курткі ў гардэроб, ідзём да прыбіральні. З яе якраз пад рукі хлопцы выносяць перапіўшую дзяўчыну, садзяць на лаўку курылкі, што мяжуе з гардэробам і туалетам. Дзяўчыне падстаўляюць сметніцу, каб званітавала, знаёмыя цесным колам абступілі яе. Кураць і дзьмуць ёй у твар, каб ачуняла. Падыходзіць міліцыянер, прапаноўвае выклікаць “хуткую дапамогу”.

Падымаемся да танцпляцоўкі. Цесна, сесці няма дзе, падысці да барнай стойкі ніякіх шанцаў, ды і не хочацца: заваленая пустымі чаркамі і келіхамі, якія ніхто не прыбірае.

Нам шанцуе: акурат пачынаецца так распіяраная ў сацыяльных сетках забаўляльная праграма. На сцэну запрашаюць чатырох дзяўчат.

– Што павінна ўмець дзяўчына? – пытаецца вядучы, які называе сябе **МС Гары Потэр**. – Вядома, – адказвае ён сам сабе, – задавальняць мужчыну! Кожнай з вас трэба патанцаваць, паказаўшы сваю “Ж...” – жаноцкасць.

Пакуль дзяўчаты танцуюць, МС Гары Потэр адпускае пошлыя каментары з мацюкамі.

Вызначылі двух пераможцаў, якія найлепш трэслі сваёй “Ж...” – жаноцкасцю. Цяпер запрашаюць мужчыну з залы, прышпільваюць яго рукі рамянём да шаста. Вядучы – дзяўчатам:

– “50 адценняў шэрага” чыталі? Фільм глядзелі? – і пошла жартуе на тэму сада-мазахісцкіх сэксуальных схільнасцяў галоўных герояў рамана. – Тады вы ведаеце, што рабіць.

Дзяўчаты круцяцца вакол шаста і труцца аб хлопца задніцамі. Зала выбрала дзяўчыну, якая зусім не адпавядае стэрэатыпам пра сэксуальны вобраз у начным клубе: без абцасаў, у джынсах і шырокім балахоне. Дзяўчына атрымлівае прыз: пляшку алкаголю і прыватны танец стрыптызёра ў касцюме каўбоя. Стрыптызёр зрывае з яе балахон, расшпільвае станік, спрабуе яго зняць. Дзяўчына не дазваляе, трымае яго рукамі. Надыходзіць кульмінацыя. Стрыптызёр амаль голы выкручваецца на шасце ля дзяўчыны, хапае яе руку і засоўвае сабе ў трусы.

Пакідаючы клуб, на лесвіцы гутарым з хлопцамі, якія не глядзелі шоу:

– Мы сюды ходзім з дзяўчатамі знаёміцца, яны тут папрасцей.

Дзяжурны міліцыянер дзеліцца ўражаннямі ад начнога клуба:

– Па графіку выпадае дзяжурыць раз на месяц. Кожны раз здзіўляюся таму, што тут адбываецца. У мяне дачка такога ўзросту, таму я вельмі баюся, што яна можа гэтак жа бавіць час. Вельмі страшна назіраць за п’янымі дзецьмі, якім толькі споўнілася 18 год.

### 02:15 – 03:45
### “Я цябе ўспомніў” у “Магніце”

“Магніт” – адзіны з трох клубаў, дзе ў святочную ноч уваход для дзяўчат платны. На першым паверсе холадна і непрыемна пахне: дзверы ў прыбіральню расчыненыя.

У танцавальнай зале вельмі цёмна. Малады мужчына схапіў руку Наташы, пацалаваў ручку, абняў і горача павіншаваў з 8 Сакавіка. Па дарозе ў бар раптоўна адна з жанчын спыніла Зою, паклала свае рукі ёй на плечы і закрычала: “Чаго ты пужаешся, з 8 Сакавіка!!!”

У бар вядзе стромкая лесвіца, якая можа стаць сур’ёзнай перашкодай для наведнікаў начнога клуба.

Вывучаем меню. Барменша адразу папярэдзіла, што таннага шампанскага за 114 тысяч рублёў няма, ёсць толькі за 230 тысяч за бутэльку. Мы папрасілі чаю. Чай нам налілі ў тры кубкі, кожны з розных сервізаў.

Займаем столік ля ўвахода ў бар, як раптам ля нашага століка прытармоўвае мужчына ў майцы з расійскім гербам і надпісам “Расія”. Пытаемся, як ён апынуўся тут:

– Жыву 40 дзён тут, 40 – у Петразаводску. Тут інтэрнат у мяне. Я будаўнік.

Мужчына некалькі секунд глядзіць на Насцю і выдае:

– Я ця ўспомніў, – і вяртаецца ў танцавальную залу.

У бар заходзіць прадавачка і прапануе набыць ружы, каб павіншаваць жанчын з 8 Сакавіка.

Падсаджваемся да суседняга століка. За ім размясцілася кампанія са Смаргоні: хлопец са сваёй дзяўчынай і цвярозы кіроўца:

– Са Смаргоні сюды вядзе вельмі зручная Т-падобнае скрыжаванне. Да гэтага былі ў “Стэлсе”, пабылі трохі, але там надта шмат людзей, не развярнуцца. Хацелася б, каб клубы працавалі не да пяці, а да сямі раніцы.

### Клубы могуць пачаць зачыняцца раней

Маладзечанскі райаддзел міліцыі звярнуўся ў райвыканкам, каб той прыняў рашэнне не дазваляць працаваць начным клубам пасля трох гадзін ночы. Пра гэта “РГ” распавёў начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Маладзечанскага РАУС **Аляксандр Кісель**. Пра тое, ці будзе прынятае такое рашэнне, чытайце ў наступных нумарах “РГ”.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Наталля ТУР,**
**Настасся РОЎДА.**

| | “Клаб” | “Стэлс” | “Магніт” |
|---|---|---|---|
| **Музыка, праграма** | Новыя хіты і музыка 5-10-гадовай даўніны кшталту “SexyBack” Джасціна Цімберлэйка, якія падабаюцца многім і прайшлі выпрабаванне часам. | Клубная музыка, песні Макса Каржа, “Раёны, кварталы” гурта “Звяры”. | Нагадаў школьную дыскатэку: расійскія хіты 90-х кшталту “Ту-лу-ла” Чычэрынай і “Видели ночь” гурта “Воплі Відоплясова” змяняліся “медлякамі” кшталту “Don’t speak”. Адзінае месца, дзе пачулі “медлякі”. |
| **Атмасфера** | Стылёва і чыста, свабодна, хапае месцаў для сядзення. Вялікая барная стойка размешчаная ў цэнтры залы, да яе зручна падысці. | Брудна, цесна, цяжка дыхаць, моцны пах цыгарэт. Не хапае месцаў, каб пасядзець, на некаторых лаўках спяць п’яныя. | Даўно патрабуе рамонту, на сценах плямы і пырскі ад напояў. |
| **Сэрвіс** | Ненавязлівы і прыемны, ветлівыя ахоўнікі. Бармены хутка абслугоўваюць, робяць прыгожыя кактэйлі. | Найбольш непрыемнае ўражанне пакінуў вядучы конкурсу, які дазваляў сабе нецэнзурныя выразы, безгустоўныя пошласці і плоскі гумар. | Адзіная ўстанова, дзе 8 сакавіка для дзяўчат быў платны ўваход – 55 тысяч рублёў. Адзіны бонус у тры гадзіны ночы наведнікам прапанавалі ружы, каб павіншаваць жанчын. |
| **Аўдыторыя (пераважна)** | Студэнты ВНУ, якія прыехалі дадому на выхадныя. Сярэдні ўзрост 20-22 гады. | Навучэнцы каледжаў і жыхары інтэрнатаў. Узрост 18-27 год. | Пасля 25 год. |
| **Прыбіральня** | Сучасны рамонт, шмат кабінак, вялікае люстэрка, ёсць мыла і папера, прыемны пах. | Дзве кабінкі, адбітая плітка, заўсёды чэргі, цесна, ёсць мыла і папера. Прыбіральня адразу побач з уваходам, гардэробам і курылкай. | Прыбіральня непадалёк ад увахода, непрыемны пах чуваць па ўсім першым паверсе. Брудна, адна кабінка, няма паперы, перапоўненая сметніца. |
| **Рэйтынг (месца)** | 1 | 3 | 2 |

13 САКАВІКА – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ СНУ

# Каб працаваць на поўную моц, падраміце паўгадзінкі днём

**МАЛАДЗЕЧНА. Каб добра высыпацца, лепш класціся спаць за дзве гадзіны да апоўначы, у дзесяць вечара. У гэты час арганізм найбольш інтэнсіўна аднаўляецца пасля дзённай працы.**


Фота ngpavlograd.org.ua.

Каб раніца сапраўды была добрай, варта класціся ў дзесяць гадзін вечара і не наядацца нанач.

Участковы доктар-тэрапеўт загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення паліклінікі №3 у Маладзечне **Жанна Кісель** адзначыла, што ў чалавека ёсць дзве фазы сну – павольная і хуткая. Першая ўключае чатыры фазы – дрымоту, пагружэнне, глыбокі сон і больш глыбокі сон.

У першыя дзве фазы чалавек найбольш чуйны да гукаў, можа прачнуцца. Глыбокі сон складае каля 50% ад усёй фазы марудная сну. Чалавек пачынае бачыць сны, яго цяжэй разбудзіць. Сардэчныя рытмы становяцца больш павольнымі, вочы – менш рухомымі, змяншаецца тэмпература цела.

– Потым пачынаецца адваротны працэс, – расказвае Жанна Кісель. – Сон праходзіць ад самай глыбокай фазы да фазы дрымоты. Аднак чалавек не прачынаецца, сон пераходзіць у фазу хуткага сну. Зрэнкі пачынаюць рухацца больш, мозг аналізуе інфармацыю ад знешняга свету.

### Да трох гадзін дня працаздольнасць змяншаецца

Для чалавека лепш паўнацэнны сон у восем гадзін, чым два разы па чатыры гадзіны. Бо праходзяць не ўсе фазы сну, і чалавек адчувае сябе стомленым.

Доктар-тэрапеўт адзначае, што карысна спаць днём, тады чалавек бадзёры, яго мозг больш актыўна ўспрымае інфармацыю.

– Чалавек найбольш актыўны ў прамежку часу ад 10 да 12 гадзін дня, – заўважае Жанна Кісель. – Потым працаздольнасць зніжаецца. Да трох гадзін дня чалавек становіцца больш марудным, адчувае сябе стомленым. Таму пажадана, каб хаця б паўгадзіны падрамаць.

Доктар узгадвае, што ў еўрапейскіх краінах на прадпрыемствах ёсць спецыяльныя пакоі для адпачынку, там работнікі адпачываюць і днём.

### Начныя змены – прычына хранічных захворванняў

Доктар заўважае, што ў людзей, якія працуюць у начныя змены, парушаны сон. Як правіла, гэта прыводзіць да хранічных захворванняў.

– Калі ўсё ж такі чалавек не можа заснуць, – адзначае доктар, – варта паляжаць у ваннай, папіць малака з мёдам, травянога чаю, паляжаць крышачку. Тады арганізм зможа трохі расслабіцца.

Доктар-тэрапеўт раіць спаць пры адкрытай фортцы нават зімой, каб быў прыток свежага паветра. Аптымальная тэмпература ў пакоі павінна быць 18-20 °С.

### Падушку трэба выбіраць па сваіх адчуваннях

Пры выбары падушкі трэба глядзець на свае адчуванні. Але доктар раіць, каб падушка была не меншай за шырыню плячэй. Тады адбываецца пераразмеркаванне нагрузкі на пазваночнік, ён становіцца больш расслабленым. Бо пазваночнік расслабляецца толькі ў становішчы, калі чалавек ляжыць.

Для людзей з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі лепш вышэйшая падушка. Калі ёсць праблемы з шыяй, пазваночнікам – артапедычная. Яна добра падтрымлівае галаву і шыйны аддзел пазваночніка, так дапамагае верхняй частцы тулава расслабіцца.

Падушка з сінтэтыкі ці натуральная – выбар індывідуальны. Калі матэрыял натуральны, важна, каб не было алергіі.

### Пад коўдрай з воўны не змерзнеце зімой і не спарыцеся летам

Цяпер разнастайная колькасць матэрыялаў, з якіх робяць коўдры. Але варта прыслухоўвацца да сваіх адчуванняў.

– Коўдра з пуху і пер'я рэгулюе цеплаабмен, але можа выклікаць алергію, – адзначае Жанна Кісель. – У такіх выпадках лепш з сінтэтычных матэрыялаў. Коўдры з авечай і вярблюджай воўны добра праводзяць цяпло. Пад імі не будзе спякотна летам, а зімой не будзе холадна. Яны не накопліваюць пыл. Аднак іх цяжэй чысціць. Такія можна параіць людзям, якія хварэюць на астэахандроз, захворванні суставаў, радыкуліт.

Месца, дзе чалавек спіць, павінна быць зручным. Калі наадварот, то ёсць рызыка, што будуць праблемы са спіной. Доктар-тэрапеўт лічыць, што найбольш прыдатнае месца для сну – ложак. Ён не павінны быць вельмі цвёрды, гэта негатыўна ўплывае на спіну. І не павінен быць вельмі мяккім, гэта можа прывесці да дэфармацыі пазваночніка.

### Наеўся перад сном – прысняцца кашмары

Доктар назваў і прычыны, па якіх парушаецца сон. Сярод іх: нервовая стомленасць, моцная фізічная праца, захворванні, хранічныя болі.

Жанна Кісель у такіх выпадках раіць прагуляцца перад сном на вуліцы, выпіць травянога чаю, які дапаможа зняць стомленасць, напрыклад, з мяты, мелісы, рамонку, альбо замяніць чай малаком з мёдам. Правільнае харчаванне таксама ўплывае на здаровы сон.

– Лепш есці за тры гадзіны да сну, тады арганізм зможа пераварыць ежу, – адзначае доктар-тэрапеўт. – Калі чалавек кладзецца спаць са страўнікам, перагружаным ежай, ён альбо доўга не можа заснуць, альбо сніць страшныя сны. Тым больш, ідзе нагрузка на знешнія органы, можа сціскацца дыяфрагма, тады дрэнна дыхаць.

Чалавеку цяжэй заснуць, калі ён перад гэтым працаваў разумова, нешта вучыў.

### Хвалюецеся, каб не праспаць, кладзіцеся раней

Недастатковая колькасць магнію прыводзіць да таго, што ў чалавека ўзнікаюць праблемы са сном. Таму варта ўводзіць у рацыён такія прадукты, як хлеб, вотруб'е, семачкі, арэхі.

Людзям, якія хвалююцца праспаць, доктар раіць класціся раней, і ў адзін і той жа час. Тады арганізм прывыкне да такога рэжыму, чалавек будзе адчуваць сябе больш камфортна.


**Галіна СІНІЦА.**
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

### Тэлефон можа вызначыць, ці храпяце

Цяпер тэхніка пайшла далёка наперад. Для тэлефонаў прапануюць дадаткі, якія фіксуюць працягласць сну, колькі часу вам не хапае, каб выспацца, могуць запісваць размовы ў сне. Вызначаюць, ці храпяце вы.

Таксама ў іх ёсць функцыя напамінання часу, калі трэба ісці спаць. Па выніках тэставання, дадаткі прапануюць вам перыяд найбольш прыдатны для вас, каб прачынацца.

Ёсць і спецыяльныя дадаткі з музыкай, якія дапамагаюць расслабіцца, падрыхтавацца да адпачынку.

Людзі, якія паспрабавалі падобныя дадаткі на сабе, разыходзяцца ў меркаваннях. Адны пішуць, што яны дапамагаюць падабраць аптымальны час для сну, пад іх лягчэй прачынацца. Іншыя не разумеюць, як дадатак працуе і якая ад яго карысць.

ЗАХАПЛЕННІ

# Услед за паветраным змеем імчацца па возеры Нарач

**МЯДЗЕЛ. Велізарныя паветраныя змеі цягнуць за сабой людзей. Такую карціну можна пабачыць на возеры Нарач, пакуль не растане лёд. Гэта трэніруюцца аматары зімовага кайтынгу, або кайтбордынгу.**

– Кайтынг – унікальны від спорту. Уявіце: вялізны паветраны змей (кайт) буксіруе вас і падпарадкоўваецца вашай волі. Гэта дае незвычайнае адчуванне энергіі, хуткасці і волі, – кажа экс-чэмпіён свету па зімовым кайтбордынгу **Аляксей Пімчанка**. – Хоць кайтынг лічыцца экстрэмальным відам спорту, але калі падыходзіць з розумам, ён бяспечны.

Кайты могуць цягаць спартсменаў і па снезе, і па вадзе. Але вучыцца Аляксей раіць зімой:

– Зімовы кайтынг больш танны, чым на вадзе: падыходзіць частка экіпіроўкі гарналыжнай. Займацца можна паўсюдна, неабавязкова на Нарач ці Мінскае Мора ехаць. На полі можна катацца, калі ёсць снег, і любое вялікае возера падыдзе. Працэс навучання у разоў пяць лягчэй ідзе. Калі зімой навучыцца, на ваду нашмат лягчэй стаць.

### Ад віндсёрфінгу да кайтынгу

Аляксей адным з першых у Беларусі стаў займацца кайтынгам – у 2001 годзе.

**– Як зацікавіліся гэтым відам спорту?**

– Адразу спадабаўся віндсёрфінг. Пачаў займацца для здароўя, бо была патрэбная нагрузка. У міжсезонне стаў шукаць падобныя віды спорту і наткнуўся на кайтынг.

Віндсёрфінг і кайтсёрфінг прыцягнулі Аляксея на Нарач.

– Для гэтых відаў лепшага за Нарач месца ў Беларусі проста няма, – даводзіць ён. – Бо плошча вялікая – значыць, роўны вецер. Вада чыстая, водмель вялікая – добра навічкам вучыцца.

Адразу сталі ўсёй сям'ёй ездзіць на Нарач займацца віндсёрфінгам. Потым бацькі Аляксея пабудавалі ў Гатавічах ля Мядзела аграсядзібу "Спартхаўз". Аляксей стаў тут інструктарам.

**Ці ёсць перспектывы для развіцця кайтынгу на Нарачы?**

– Перспектывы ёсць. Прыязджаюць з Расіі досыць часта, з далейшых краін – то радка.

Прыкінуў Аляксей, што зімовым кайтынгам у Беларусі займаецца каля сотні людзей. Але апошнім часам развіццё кайтынгу стрымліваецца:

– Цяпер асаблівага прыросту ахвотных не адчуваецца. Кайтынг вельмі марудна развіваецца ў Беларусі.

**– Чаму так? Бо дарагі ці незнаёмы від спорту?**

– Тут, пэўна, усе гэтыя фактары спалучаюцца. Ён і незнаёмы, і нятанны: разы ў тры даражэйшы за горныя лыжы. У свеце таксама развіццё кайтынгу крыху спынілася. Пэўна, усе ахвотныя ажыццявілі сваю мару. Гэта малады від спорту, і ён вельмі хуткімі тэмпамі развіваўся ад 2005 да 2010 года. Зараз прырост кайцэраў ёсць, але невялікі. Цяпер вельмі выгадна ўлівацца ў гэты від спорту, таму што ў апошнія пару гадоў абсталяванне значна патанела.

Мажліва і зэканоміць, калі набываць не новы рыштунак:

– Можна ж былы ў карыстанні інвентар купіць. У гэтым выпадку за сем з паловай мільёнаў рублёў можна нармальную экіпіроўку набыць. Асобна кайт можна і за тры мільёны знайсці.

У 2013 годзе Аляксей хацеў у Мядзеле набраць групу дзяцей для навучання кайтынгу. Прапаноўваў вучыць бясплатна. Але не атрымалася. Надвор'е не вельмі спрыяла заняткам, ды і няшмат ахвотных аказалася (лепш, каб хоць чалавек пяць было).



Фота забяспечана Аляксеем ПІМЧАНКАМ.

Зімовы кайтынг развівае каардынацыю і дае незвычайнае адчуванне энергіі, хуткасці і волі.

### Кайтынгам займаюцца і ў 70 год

Найперш кайтынг развівае каардынацыю.

– Напачатку можа паказацца, што ў гэтым відзе шмат сілы трэба. Але гэта пакуль не хапае ўмення. Калі ўмееш катацца, то ўжо не стамляешся. Фізічная нагрузка ёсць, але невялікая.

Займацца кайтынгам можна год з дзевяці. Тут абмежаванні не па ўзросце, а вазе: дзіця павінна важыць больш за 40 кілаграмаў. У пажылым узросце навучыцца цяжкавата. Але займаюцца людзі і ў 70 год. Гэта даказвае, што фізічная нагрузка тут невялікая.

### Мясцовых жыхароў паветранымі змеямі не здзівіш

**– Мясцовыя жыхары не здзіўляюцца, што тут такія паветраныя змеі запускаюць?**

– Прызвычаіліся ўжо. Здзіўляюцца тыя, хто з Мінска прыязджае на выхадныя. Бывала такое, што на Нарачы збіралася да 30 кайцераў.

Катанне пад кайтам тым і характэрнае, што заўсёды штосьці адбываецца, дзеліцца Аляксей. Прыгадвае, як на спаборніцтвах разам з заведчанымі спартсменамі ўдзельнічалі навічкі. Вецер быў даволі моцны, і ў аднаго чалавека нейк знесла кайт. Мужчына пайшоў за ім, а дошку пакінуў. Амаль да другога берага дайшоў. Пакуль вяртаўся, сляды замяло. Дошку не знайшоў. Ужо вясной пазваніў рыбак, паведаміў, што наткнуўся на дошку, умерзлую ў лёд.



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by

НАВІНЫ

## "Смаргонь" саступіла "Бярозе-2010"

**СМАРГОНЬ.** На штучным полі ДЮСШ 7 сакавіка футбольны клуб "Смаргонь" правёў таварыскі матч з ФК "Бяроза-2010".

Смаргонцы прайгралі 0:1, расказаў прэс-аташэ клуба **Уладзімір Амбрасевіч**. Гол гаспадары прапусцілі ў самым пачатку гульні, на чацвертай хвіліне.

## Смаргонцы і ашмянцы прайгралі

**СМАРГОНЬ.** У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе смаргонская "Вілія" 7 сакавіка прайграла "Цэментніку" 5:14.

"Вілія" па-ранейшаму займае шостае месца ў вышэйшай лізе.

У першай лізе чэмпіянату "Ашмяны" 7 сакавіка саступілі "Беллакту" 2:4. "Амшяны" займаюць пятае месца, "Меліяратар" з Астраўца ідзе трэцім.

## Вызначаць чэмпіёна ў суботу

**МЯДЗЕЛ.** У суботу, 14 сакавіка, стане вядомы чэмпіён Мядзельскага раёна па міні-футболе. Сустрэнуцца дзве каманды, якія пакуль ідуць без прайгрышаў: НДЦ "Зубраня" і "Алімпік". Ужо вядомы ўладальнік трэцяга месца – каманда індывідуальных прадпрымальнікаў "Мядзел".

Каманда Крывіцкага сельсавета 4 сакавіка прайграла "Юніёру" 0:6. Каманда аддзела ўрайвыканкама саступіла прадстаўнікам аддзела адукацыі, спорту і турызму 1:3.

Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях 7 сакавіка перамаглі каманду райвыканкама 5:2. Каманда аддзела ўрайвыканкама перайграла гульцоў з Крывічоў 6:2.

Зафіксавалі ў гэты дзень самае буйное паражэнне ў чэмпіянаце: прадстаўнікі цэнтра "Зубраня" разграмілі "Лідар" 17:1.

Упартая барацьба выдалася ў матчы паміж "Алімпікам" і ІП "Мядзел".

– Да апошніх хвілін лік быў 5:4. Урэшце "Алімпік" забіў яшчэ гол і выйграў 6:4, – распавёў дырэктар фізкультурнааздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак.**

## Мацнейшы гіравік – сярод выратавальнікаў

**МЯДЗЕЛ.** Чэмпіянат Міністэрства па надзвычайных сітуацыях па гіравым спорце адбыўся 26 лютага. Перамагла ў ім каманда Мінскага абласнога ўпраўлення.

Найлепш у ёй выступіў прадстаўнік Мядзельскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Сяргей Багуцкі**. Ён заняў першае месца ў вагавай катэгорыі да 90 кілаграмаў.

## У Мядзеле спаборнічалі рыбакі

**МЯДЗЕЛ.** 28 лютага на возеры Мястра адбыліся спаборніцтвы па рыбнай лоўлі на лёдзе на мармышку. Прайшлі яны ў межах круглагадовай спартакіяды сярод працоўных калектываў раёна.

Удзельнікі лавілі рыбу ад васьмі да 13 гадзін.

У камандным заліку перамаглі прадстаўнікі НДЦ "Зубраня". У **Сяргея Амельяновіча** з гэтай каманды – самы вялікі улоў (больш за два з паловай кілаграмы). Злавіў ён таксама найбольшую колькасць рыбін, расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**.

Самую вялікую рыбіну выцягнуў **Андрэй Ліпніцкі** з Мядзельскага ПМС.

## Тры вілейскія каратысты – на п'едэстале ў Эстоніі

**ВІЛЕЙКА.** 28 лютага і 1 сакавіка вілейскія спартсмены ўдзельнічалі ў міжнародным турніры па каратэ "Estonia open" у Таліне. За перамогу змагаліся спартсмены з Прыбалтыкі, шэрагу паўночна-еўрапейскіх краін, Расіі, Беларусі.

Тры віляйчаніны былі ў складзе зборнай БАКОГ. **Мікіта Кірыевіч** выступаў ва ўзроставай катэгорыі 14-15 год (да 63 кілаграмаў). Ён стаў чэмпіёнам.

**Павел Кірыевіч** і **Яўген Канапелька** змагаліся сярод 18-гадовых і старэйшых удзельнікаў у вагавай катэгорыі да 75 кілаграмаў. У Яўгена – трэцяе месца. У Паўла – другое. У фінале ён саступіў моцнаму спартсмену з Латвіі.

– Радуе, што ўсе нашы хлопцы апынуліся на п'едэстале, – кажа трэнер клуба "Самурай" з Вілейкі **Сяргей Кірыевіч**.

## Вілейскія выратавальнікі – другія

**ВІЛЕЙКА.** На вадасховішчы Дразды ў Мінскім раёне 5 сакавіка прайшлі спаборніцтвы сярод выратавальнікаў-вадалазаў і плыўцоў Мінскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях.

Прадстаўнікі Вілейскага райаддзела занялі другое месца, паведамляе абласное ўпраўленне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настасі РОЎДЫ.

**Сонечнае надвор'е. На тэрмометры +12 °С. На вуліцах шмат маладых мам з дзеткамі – прыкмета вясны.**

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Сёння раніцай здарылася аварыя ля гімназіі №6 у Маладзечне (Фота)

Прабачце, дзяўчаты, 8 сакавіка, усё такое, аднак за рулём павінны "седеть" мужыкі. *Мужык.*

Хай сабе мужыкі і "седеют", галоўнае, каб розуму набіраліся. Толькі аварый з удзелам мужыкоў не меншае? Многія з іх носяцца па дарогах, што шалёныя. А колькі яшчэ і п'яных за рулём? Менавіта з-за такіх мая сястра ў 25 гадоў засталася ўдавой на руках з малым дзіцем. *EVA.*

### "Смаргонь" пачала сезон з перамогі

Выбачайце, але "Смаргонь" не пачала сезон з перамогі. Таварыскія матчы не лічацца пачаткам сезона. Сезон пачнецца першай гульнёй "Смаргоні" ў першай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе. Зрэшты, чаму б не? Калі хочацца, каб Смаргонь пачала сезон з перамогі, няхай так і будзе. Кожны сам для сябе вырашае: калі той сезон пачынаецца... *Варатар.*

### У адной з машын, што сутыкнуліся 8 сакавіка ў Маладзечне, была жанчына на 9-м месяцы цяжарнасці

Жах! Праз нечае глупства пакутуюць людзі. *Алена Русецкая.*

### Жахі ў ранішнім цягніку

Толькі ў цягніках эканом-класа ёсць усе экстрэмальныя позы для адпачынку. *Вася.*

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Тыграня Петрык**" (музычная казка), Х.Янушэўская
15 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27**

УНП 600136804

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 4 | | | 3 | | |
| | | | | | 2 | 8 | 7 | 4 |
| | | 4 | 3 | | 8 | | 5 | |
| | 2 | 5 | 1 | | | | 6 | |
| | | | | | | | | |
| | 6 | | | | 5 | 4 | 8 | |
| | 4 | | 5 | | 3 | 1 | | |
| 6 | 3 | 7 | 2 | | | | | |
| | | 1 | | | 9 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі "**Папялушка**" (ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
13, 18 сакавіка – у 17:00
14 сакавіка – у 11:00, 14:50
15 сакавіка – у 13:50
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі "**12 месяцаў. Новая казка**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
14 сакавіка – у 13:00
15 сакавіка – у 12:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыйная меладрама, крымінал "**Фокус**" (ЗША, 2015, з 16 год)
13 сакавіка – у 21:30
17 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер "**Робат па імені Чапі**" (ЗША, Мексіка, 2014, з 16 год)
14 сакавіка – у 19:30
15 сакавіка – у 18:30
16 сакавіка – у 21:00
18 сакавіка – у 21:40
19 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Драма "**Духless 2**" (Расія, 2015, з 16 год)
13, 18 сакавіка – у 19:20
14 сакавіка – у 17:10 (цана білета: 45 000 рублёў)
14 сакавіка – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
15 сакавіка – у 16:10
15, 17 сакавіка – у 21:00
16 сакавіка – у 18:30 (цана білета: 45 000 рублёў)

Прэм'ера! Анімацыя "**Звярыны атрад**" (3D, Італія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
19 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка, баявік "**Дывергент, глава 2: Інсургент**" (3D (ЗША, 2015, з 16 год)
19 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Дзінамама**" (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
14, 15 сакавіка – у 14:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгоды "**Таямніца цёмнага пакоя**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
13 сакавіка – у 16:30 (цана білета: 15 000 рублёў)
14, 15 сакавіка – у 16:30 (цана білета: 20 000 рублёў)

Гісторыка-прыгодніцкі "**Дзяржаўная мяжа. Афганскі капкан. Фільм дзясяты**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
14 сакавіка – у 18:30
17 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Хоць раз у жыцці**" (ЗША, 2013, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
13, 19 сакавіка – у 18:30
15, 17 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, крымінал "**Воўк з Уол-стрыт**" (ЗША, 2013, з 18 год)
13, 18, 19 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Прышпіліце рамяні**" (Італія, 2014, з 16 год)
14 сакавіка – у 21:00
15 сакавіка – у 19:00
16 сакавіка – у 21:30
18 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Дзяржаўная граніца. Афганская пастка**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13 сакавіка – у 17:30
15 сакавіка – у 17:00
18, 19 сакавіка – у 20:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Фэнтэзі "**Ваўкі**" (Францыя, Канада, з 16 год)
13 сакавіка – у 19:30
15 сакавіка – у 19:00
19 сакавіка – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Клуб Вінкс: Тайна марской бездані**" (Італія, без узроставых абмежаванняў)
14 сакавіка – у 13:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Горка 2**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 сакавіка – у 17:00
18 сакавіка – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды "**Схватка**" (Беларусь, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 сакавіка – у 19:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя "**Альфа і Амега. Іклатая братва**" (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
15 сакавіка – у 13:00
Цана білета – 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Баявік, трылер "**Робат па імені Чапі**" (2D, ЗША, Мексіка, з 16 год)
13, 18 сакавіка – у 18:00
15 сакавіка – у 20:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Драма "**Духless 2**" (2D, Расія, з 18 год)
13, 14, 18 сакавіка – у 20:30
15 сакавіка – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Звярыны атрад**" (3D, Італія, без узроставых абмежаванняў)
14, 15 сакавіка – у 12:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (2D, Францыя, Вялікабрытанія, без узроставых абмежаванняў)
14 сакавіка – у 14:00
15 сакавіка – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Фэнтэзі "**12 месяцаў. Новая казка**" (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
14 сакавіка – у 16:00
15 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Меладрама, камедыя, крымінал "**Фокус**" (2D, ЗША, з 16 год)
14 сакавіка – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Ёлкі махнатыя**" (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
19 сакавіка – у 18:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Дывергент, глава 2: Інсургент**" (3D, ЗША, з 16 год)
19 сакавіка – у 20:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Уладзімір Рудаў*
13 сакавіка, пятніца, – у 19:00

"**На другі дзень Сёмухі**" (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), *Юры Вута*
17 сакавіка, аўторак, – у 19:00

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя у 2-х частках) *Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі*
18 сакавіка, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-драматычны спектакль)
19 сакавіка, чацвер, – у 19:00

E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

УНП 600066659

## ГАРАСКОП

**13-19 САКАВІКА**



**Авен.** Вы ўсё перажываеце, сумняваецеся, ці правільна зрабілі, ці правільнае рашэнне прынялі. Ад гэтага псуецца настрой. Не перажывайце, будзьце ўпэўненыя ў заўтрашнім дні, і ўсё атрымаецца.



**Цялец.** Перыяд парадуе тых, хто схільны да творчай дзейнасці, спрабуе розныя спосабы самавыражэння. А яшчэ дзякуючы збегу абставін ці сваім аналітычным здольнасцям вы можаце атрымаць ключ, які адчыніць дзверы да поспеху і новых дасягненняў.



**Блізняты.** Не важна, якая сітуацыя ўзнікла ў вас у галаве. Рэальнасць такая, што вы можаце з гэтым справіцца. Вы нашмат мацнейшыя і мудрэйшыя, чым думаеце. Вы пройдзеце скрозь гэта і перажывяце.



**Рак.** Вы будзеце абаяльнымі ўдвайне: па-першае, у сваіх уласных вачах, падругое, у вачах навакольных, якім перадасца ваша надзвычайная ўпэўненасць у сабе. Харызма будзе дапамагаць і на рабоце, і дома, і ў зносінах з людзьмі.



**Леў.** Наша цела старэе, і мы не можам гэтаму перашкодзіць. Лепшы спосаб замарудзіць старэнне – атрымліваць асалоду ад жыцця і пражываць кожны дзень напоўніцу.



**Дзева.** Не звяртайце ўвагу на некаторыя дзівацтвы ў паводзінах вашых знаёмых. Вы таксама не заўсёды ўсё робіце лагічна. Трэба прымаць людзей такімі, якія яны ёсць.



**Шалі.** Каб змяніць сваё жыццё, даводзіцца рызыкаваць. Прыняцце абдуманых і рызыкоўных рашэнняў дапамагае нам расці. Часцяком рызыка – гэта добра.



**Скарпіён.** Жыццё сумнае без мэты. Вырашыце, што важна для вас, і пабудуйце сваё жыццё вакол гэтага.



**Стралец.** Вам трэба добра ўсвядоміць правіла трох Н – няма нічога немагчымага.



**Казярог.** Чэснасць да самога сябе – гэта свабода. Будзьце чэсныя да самога сябе. Самападман – гэта асляпленне самога сябе.



**Вадалей.** Калі што не атрымоўваецца – проста чакайце. Час усё расставіць па сваіх месцах і адкрые новыя магчымасці. Заўсёды верце ў тое, што ўсё будзе добра.



**Рыбы.** Дзейнічайце, каб знайсці мэту ў жыцці. Яна не знойдзе сябе сама. Дапаможыце ёй у гэтым і рабіце ўсё магчымае, каб адшукаць мэту.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27



## НАДВОР'Е

**14 сакавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +3 | | +3 / +6 | | +5 / +7 | | +4 / +7 | |
| | 748 | ↙ 10 | 750 | ← 7 | 758 | ← 5 | 762 | ← 6 |
| Вільня | +1 / +3 | | +3 / +6 | | +5 / +7 | | +5 / +7 | |
| | 759 | ↙ 9 | 758 | ← 6 | 766 | ← 3 | 771 | ← 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.29
Захад 19.14
Даўжыня дня 11.45

Усход 3.24
Захад 12.01
Квадра 4




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Ашмяны**

- Мінімальная тэмпература -15,8 °C у 1987 годзе
- Максімальная тэмпература +10,8 °C у 2007 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 14,8 мм у 1992 годзе

Назіранні за 37 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Лявону Васілевічу з Маладзечна сёлета 100 гадоў. Ён сустракае юбілей у добрым здароўі і ўзгадвае свой доўгі жыццёвы шлях. Пра яго – у наступным нумары "РГ".**

ГРАМАДСТВА

## Выйшла кніга пра гісторыка маладзечанца Міколу Ермаловіча

**МАЛАДЗЕЧНА. Кніга "Мікола Ермаловіч. Той, хто вярнуў нам гісторыю" пад аўтарствам Анатоля Асіпенкі выйшла ў серыі "100 выдатных дзеячаў беларускай культуры".**

У ёй аўтар распавядае пра навуковы шлях беларускага гісторыка, асноўных тэзісы з тэорыі беларускай гісторыі.

– Мікола Ермаловіч – адзіны гісторык Беларусі, які не меў навуковых званняў, вучоных ступеняў, стаў аўтарам уласнай навуковай канцэпцыі ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага, якую прызнаюць многія айчынныя і замежныя навукоўцы, – распавёў Анатоль Асіпенка.

Аўтар кнігі вызначыў значэнне гістарычных прац Міколы Ермаловіча для беларускай гісторыі: ён першым адкінуў стэрэатыпы пра тое, што беларускія плямёны былі заваяваныя ў XIII стагоддзі жамойтамі, стварыў нацыянальную беларускую гісторыю.

**Паводле Радыё Свабода.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 11 (1037) 13.03.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 333. Падпісана ў друк у 9.00 12.03.2015.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.